# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND” |
|---|---|---|

№ 24-25 (508-509) — Нядзеля, 26 чэрвеня 1960 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14

# Янка Купала

**У 18-ю ГАДАВІНУ СЬМЕРЦІ**

Янка Купала — запраўднае прозьвішча Луцэвіч — прызнаны за найвялікшага паэту, ідэялёга беларускага адраджэньня й прарока народу. Усе гэтыя вялікія якасьці праявіліся празь яго паэтыцкую індывідуальнасьць дзякуючы таму, што ён быў выпладам беларускага нацыянальнага асяродзьдзя, у ягонай душы сканцэнтраваліся цярпеньні, жаданьні й імкненьні беларускага народу, празь ягоную творчасьць прамовіла беларуская народная стыхія.

Усё жыцьцё Купалы праходзіць у беларускай нацыянальнай атмасфэры. Жыцьцёвы шлях ягоны — ад вясковага дзяцюка да прарока народу — ідзе ў пары з шляхам разьвіцьця беларускага нацыянальнага адраджэньня, ад паняволеньня да барацьбы за поўнае нацыянальнае вызваленьне. Разгледзіць творчасьць Купалы — гэта значыць разгледзіць прабег беларускага адраджэнска-вызвольнага руху.

Янка Купала косьць ад косьці, кроў ад крыві Беларус. У сваёй маладосьці ён цягнуў лямку беларускага сялянскага жыцьця. Радзіўся ў хвальварку Вязынка каля Радашкавіч 25 чэрвеня 1882 году ў купальскую ноч. Адсюль псэўдонім яго Янка Купала. Бацька яго, ня маючы собскай, арандаваў зямлю ў абшарнікаў, вандруючы зь месца на месца. Пры такіх абставінах малы Янка пазнаваў край і жыцьцё Беларусаў, якое сталася асноўнай тэмай ягонай творчасьці. Хлапчук вызначаўся вялікімі здольнасьцямі, але ня меў ніякіх магчымасьцяў да нармальнай, школьнай навукі. Чытаць і пісаць навучыўся хатнім спосабам. У школу хадзіў толькі адну зіму, каб атрымаць пасьветчаньне аб сканчэньні народнага вучылішча. Ягонымі запраўднымі вучыцелямі былі матка-прырода Беларусі й беларускі народ. Свой кругазор і фантазію пашыраў слухаючы беларускія народныя казкі й песьні, сваю эстэтычную чуласьць гадаваў на харастве беларускай прыроды. Ягоныя бойкія рытмы й рыфмы ўвасабляюць рытм працы беларускага селяніна — малацьбы, касьбы, жніва, а музычнасьць ягонага вершу заснавана на музычнасьці беларускай народнай песьні, народных гутарак, народнага жыцьця й прыроды Беларусі.

«Мне мудрасьці кніжнай ня даў Бог
пазнаці,
Мой бацька ня мог даць раскошаў
такіх —
Наўчыўся я слоў беларускіх ад маці
і дум беларускіх бяз школы і кніг.

Ад самай красы маіх дзён невясёлых
Настаўнікам быў беларускі абшар:
Усходы палеткаў і гоманы ў сёлах
Навуку сваю мне прыносілі ў дар.»

(Верш «Мая навука»)

Кніжкі прыйшлі яму на помач значна пазьней і тады ён не расставаўся зь імі ні пасьвячы статак, ні на начлезе. Даставаў ён іх у пана Чаховіча пасуседзтву, які меў багатую бібліятэку. Там ён пазнаёміўся з польскай і расейскай літаратурай, а таксама з «Кабзаром» Шэўчэнкі. У таго-ж пана Чаховіча Купала спаткаўся зь беларускім пісьменьнікам Ядвігінам Ш., які абдарыў яго беларускімі творамі Дуніна-Марцінкевіча й Багушэвча.

Пасьля сьмерці бацькі й дзьвёх сясьцёр у 1902 годзе на маладога Янку ўспадае цяжар утрыманьня сям'і. Ён ня хоча аднак, ісьці сьлядамі бацькі, абрабляючы чужую зямлю, яму ўдаецца знайсьці работу спачатку работніка, а пазьней памоцніка майстра ў бровары. Тут — пад уплывам беларускай рэвалюцыйнай літаратуры — ён усьведамляецца нацыянальна й сацыяльна ды пачынае пісаць вершы. Першы ягоны верш «Мужык» быў надрукаваны ў 1905 годзе ў менскай газэце «Северо-Западный Край».

«Што я мужык, усе тут знаюць,
і як ёсьць гэты сьвет вялік,
Зь мяне сьмяюцца, пагарджаюць, —
Бо я мужык, дурны мужык.»

З гэтай сатыры на зьдзек над Беларусам-чалавекам і пачынаецца творчасьць Купалы. Піша тады ён шмат. Аб чым? — Аб усім тым, што перажывала беларуская вёска й за што балеў душой сам пясьняр: аб беднаце, цемнаце, уціску, бядзе, нацыянальным і сацыяльным прыгнечаньні, зьдзеку над чалавекам з боку царскай рэакцыйнай улады й абшарнікаў-паноў. Рэальныя, няпрыкрашаныя вобразы з гэтага цяжкога жыцьця запаўняюць і зборнік вершаў «Жалейку», выданую ў 1908 годзе й тады-ж напісаную сцэнічную паэму «Адвечная песьня». Ад іх вее жахам, крыўдай і абурэньнем, яны б'юць папрокам у найлепшыя людзкія пачуцьці ды лятуць увысь, да неба — із скаргай на несправядлівасьць:

«Глянь: вялікае сяло —
Ветрам хоць разьвей,
Завяло-ж там, завяло
Бяздольле людзей!
Бачыш, быццам чалавек,
Векам малады:
Сьлёзы лезуць з-пад павек,
Гнецца ад бяды ...»

— кажа паэта у вершы «Аб мужыцкай долі».

«Божа! Гэткі сьвет тут
Моц стварыла твая!
Дзе-ж мой дом, дзе мой люд?
Дзе айчына мая ? ...

— з адчаем у душы зьвяртаецца Купала да Ўсемагутнага. Але паміма гэтага трагізму краіны паэта любіць яе ўсёй душой. Ягоны патрыятызм ужо тады расьцьвіў у поўнай сіле й стаўся арганічнай часткай ягонай істоты:

«Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор,
Ці запеў салавей, ці загагала гусь,
Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор,
Сваю матку-зямлю — Беларусь » ...

(Верш «Гэта крык, што жыве Беларусь»)



Янка Купала

✳

З 1906 году ў Вільні выходзіць беларуская газэта «Наша ніва». Купала робіцца сталым супрацоўнікам яе. Рэдакцыя «Нашай Нівы», пазнаўшы вялікі паэтыцкі талент у ім — пастаралася ў 1908 гдзе сьцягнуць яго ў Вільню, каб дапамагчы ў павялічэньні асьветы й разьвіцьці ягоных паэтыцкіх здольнасьцяў. З гэтага часу пачынаецца мястовы этап у жыцьці й пераходны пэрыяд у творчасьці Купалы. Аднак яго ня можа задаволіць віленскі, правінцыянальны, вузкі літаратурны сьвет. У 1909 годзе ён едзе ў Пецярбург пад апеку праф. Эпімах- Шыпілы. Там пясьняр наш вучыцца на вышэйшых курсах Чарняева, знаёміцца з чужымі ліаратурамі, стараецца пранікнуць у сталічныя літаратурныя колы, вельмі шмат працуе над сабой і сваім творствам. Адбіцьцём гэтага пэрыяду — пераходнага, калі зь вясковага дзяцюка выпрабляецца інтэлігент, выдатны беларускі пясьняр — ёсьць зборнік вершаў «Гусьляр». У ім з аднаго боку, Купала займаецца філязафічнымі праблемамі быцьця й нябыцьця, а з другога — вызначае сабе ролю гусьляра, што ўдарае па струнах сваіх гусьляў, каб чароўнай музыкай сваёй выжыць «...цемру, зводы мар...», каб «...даць паходням жар», «Кроў сагрэць як вар сказам новых дзён ...» — адным словам будзіць народ да новага, сьвядомага нацыянальнага жыцьця.

Пецярбурскі пэрыяд — 1909-1913 — быў найпладнейшым у творчасьці Купалы. У гэтым часе ён выдае найвялікшы свой зборнік вершаў «Шляхам жыцьця», сцэнічную паэму «Сон на кургане», камэдыю «Паўлінка», піша драму «Раськіданае гняздо» й камэдыю «Прымакі». У гэтым-жа часе Купала афармляецца як моцна выробленая індывідуальнасьць, выковывае свой сьветагляд й вырастае на запраўднага волата слова й прарока свайго народу.

Ужо ў вершы з «Жалейкі» «А хто там ідзе» вырысоўваецца ідэялёгія беларускага адраджэньня ў імкненьнях «людзьмі стацца», «людзьмі звацца». У «Шляхох жыцьця» гэта ідэялёгія пачынае прэцызавацца. Паэта наш ад болю «Над народу доляй» пераходзіць да моцнай самапэўнай паставы. У вершы «Ужо днее» ня бачым спатыканых раней, жальлівых нот, а ўладарную станоўкасьць Маці Беларусі:

«...Я ўсё, колькі сілы, змагала,
ўставала!
Я жыва! Народ мой са мною, пры мне!
Я ўсё перанесла і выйшла я з хвалай,
Я сільна, я вечна ў сваей старане!» ...

У вершы «Прарок» Купала кліча Беларусаў, каб паўсталі са сну, паказвае на прадзедавы косьці, што ляглі за іх і граміць за тое, што:

«...Забылі ўсё, згубілі долю,
Зьмяшалі славы цьвет з гразьзёй,
І запрадаліся ў няволю,
З душой і скурай шчэзьлі ў ёй» ...

Заклікае, каб «ськівалі ёрмы», «склікалі сход» ды паказалі іншым народам які яны сільны народ.

Пясьняр-прарок станавіцца ў вабарону найвялікшых скарбаў народу — мовы, песьні (верш «Наша песьня»), ягоныя словы поўны пагрозы крыўдзіцелям. Ён перасьцерагае чужынцаў, што распанелі на Беларусі, перад народным гневам, помстай (верш «Чужым»):

«...Людзі чужыя! Хтось калісь зьліча
Вашу нам шкоду:
Зьліча праступкі... к суду пакліча
Крыўда народу » ...

У 1913 годзе Купала варочаецца ў Вільню, каб рынуцца ў вір беларускай грамадзкай працы дзеля адраджэньня народу. Ён становіцца рэдактарам «Нашай нівы» — г. зн. абыймае цэнтр беларускага жыцьця. Тут ён сочыць за ўсімі праявамі гэтага жыцьця ды стараецца надаць ім адпаведны кірунак. Але ў 1914 годзе выбухае вайна. У 1915 годзе надыходзяць Немцы. Перастае выходзіць «Наша ніва». Купала эвакуецца ў Менск, пазьней у Арол і ўрэшце ў Маскву. Там ён жэніцца і ўступае на ўнівэрсытэт. Аднак праз год ужо — дзеля вайсковай павіннасьці — уступае ў Дарожны Аддзел (паўваенную арганізацыю) і пераяжджае пад фронт на Беларусі. Тут застае яго расейская лютаўская рэвалюцыя, бальшавіцкі пераварот ды новыя чужацкія акупацыі. На яго вачох праходзіць Першы Ўсебеларускі Кангрэс ды пазьней абвешчаньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. На яго-ж вачох адбываецца разгром адноўленай беларускай дзяржаўнасьці ды ўстанаўленьне чужога савецкага ладу на Беларусі.

Гэткі бурлівы час ня спрыяе паэтыцкай творчасьці. Аднак Купала не паддаецца ніякім бедам, ён творыць далей. Усе пералічаныя вышэй падзеі знаходзяць водглас у сабраных з гэтага пэрыяду вершах яго ў зборніку «Спадчына», якія былі выдадзены ў 1922 годзе.

Вайна й рэвалюцыя, расклад Расейскай Імпэрыі выходзяць на арэну гісторыі. Тут нельга страціць ніводнага мамэнту. Прарок мусіць сказаць свайму народу сваё слова: што рабіць, які шлях выбраць для будучыні. І тут яму на помач прыходзіць беларуская народная інтуіцыя і ён кажа гэта слова, і ён кліча:

«...Паўстань, народ! Для будучыні
шчасьце
Ты строй, каб пут ня строіў больш
сусед;
Ня дайся ў гэты грозны час прапасьці, —
Прапашчых не пацешыць шчасьцем
сьвет ...»

(Верш «Свайму народу»)

У вершы «На сход» заклікае на «усенародны, грозны, бурны сход» — на рэвалюцыю — свой «аграблены, закованы народ», каб вырашыць лёс сваёй краіны й аддаць пад суд ворогаў, якія робяць нам крыўды, зьдзек, рэжуць нашу бацькаўшчыну на кускі. У гэтых клічах выявілася завяршэньне ідэялёгіі беларускага нацыянальнага адраджэньня ды ўцелаісьцілася ў Першым Усебеларускім Кангрэсе й Акце 25 Сакавіка. Тое, што найграла ліра Купалы на працягу гадоў — праводзіцца ў жыцьцё. Вялікая заслуга ў гэтым самога прарока народу, які ставіўся ў вабарону яго ня толькі перад зямнымі нягодамі й ворагамі, але й гатоў быў уступіць навет у спрэчку з Усемагутным Богам, калі Яго міласэрдзе не адклікалася на беларускія крыўды й цярпеньні. Бачым мы гэта ў вадным з мацнейшых вершаў Купалы «Цару неба й зямлі».

У «Шляхам жыцьця» й Спадчыне» Купала сказаў усё што трэба было адносна ідэялёгіі беларускага нацыянальнага адраджэньня. Тут-жа ён выявіў усю веліч свайго паэтыцкага таленту, моц асабістай і паэтыцкай індывідуальнасьці, сваю й беларускую самабытнасьць, багацьце й самабытнасьць мовы ды ўсе выяўленыя сяродкі красы ў сваёй паэтыцкай інструмэнтацыі. Калі-б ён пасьля гэтага нічога больш і ня пісаў — слава й значэньне яго нічуць-бы ня зьменшылася. Аднак пісаць больш яму йшчэ прышлося й то ў страшэнных абставінах.

✳

У Савецкай Беларусі Купала жыве стала ў Менску. Ён дастае тытул народнага паэты Беларусі, якой Масква спачатку давала такія-сякія магчымасьці нацыянальнага жыцьця. Наш пясьняр сам пачынае верыць у шчырасьць бальшавіцкіх намераў будаваньня «Беларускага Дому», ён піша вершы на ноту сацыялістычнага будаўніцтва Беларусі, надрукаваныя ў зборніку «Безназоўнае» ў 1925 годзе. Аднак і ў гэтым зборніку вычуваецца нейкі сумлеў, недавер паэты да бальшавікоў. Купала хоць цешыцца здабычамі рэвалюцыі й заклікае «сялян і сялянак на палянкі», каб «сеяць у добры час», — сцьвярджае аднак, што ён сам ... «ня збыў яшчэ, ўсіх бед», што яму «сьняцца сны аб Беларусі» ... — відаць аб тэй Беларусі, якую выпесьціла, высьпявала ягонае паэтыцкае натхненьне ў сваіх творах, а не аб чырвонай, Савецкай Беларусі. І тут прамовіла паэтыцкая інтуіцыя: прадказала яму й ягонаму народу небясьпеку, перасьцерагла перад няшчасьцямі з боку чырвонае Масквы. І няшчасьці прыйшлі, і ўдарылі як гром.

У 1929 годзе на распрапагаваны «Беларускі Дом» валяцца ўсе няшчасьці насланыя Масквой у постаці барацьбы з «нацдэмаўшчынай»: разгром беларускіх культурна-навуковых і грамадзкіх устаноў, пагалоўныя арышты беларускіх вучоных, пісьменьнікаў, артыстых ды масы інтэлігенцыі і ўрэшце калектывізацыя ў 1931 годзе з пагромам мільёнаў беларускага сялянства. Прарок, народны паэта Беларусі ня можа зьнясьці такога зьдзеку над народам. Ён пратэстуе ўсёй сваёй істотай. І за гэта пападае ў савецкі вастрог. Але й вастрог ня можа прыгнобіць веліч ягонага духу. Каб запрэтаставаць мацней, на ўвесь сьвет — ён пастанаўляе кончыць самагубствам. Дзеля таго, што ня мае пры сабе ніякіх прыладаў — звычайнай лыжкай распорвае сабе жывот і ў страшэнных муках пачынае канаць. Але савецкія сатрапы агледзіліся ў час. Яны прылажылі ўсе стараньні, каб не дапусьціць да сьмерці Купалы, якая бы-

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**

# Літаратурны Дадатак

### ВІДЗЕНЬНЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Як толькі песьняю сваёй зайдуся —
і Бацькаўшчына ў сэрца хлыне мне,
і лёгка робіцца ў начной задусе,
і быццам не на яве я, а ў сьне.

Здалёк чаломківае мне як быццам —
няўцешліваму сыну ў чужыне.
Іду, як праз туман, хачу прабіцца,
ды сам ня ведаю, ці гэта я, ці не.

Спыняюся, чакаю — ды няма прывету.
Сьпяшаюся, хоць ногі колюць хмызьнякі . . .
Бо што мілей выгнаньніку-паэту,
чым вобраз твой — далёкі і блізкі?

1959 г.

### ДАЛЁКАЕ

Цяпер тое ўсё далёка,
як звон за хатай калосься.
Пісаліся вершы лёгка,
калі мне цяжка жылося.

Жывецца цяпер ня лепей,
а можа яшчэ і горай —
вясёлым зіхценьнем у небе
ня сьвецяцца зоры.

Для песьні радок здабываю
няўпэўнена, рэдка, скупа.
Аблаюць яшчэ—бывае—
яе паасобку ці ў купе.

І болю і гневу і смутку
агонь тлее ў слове, як прыску.
Застаўся ад песень тых хутка
на вуснах гаркавы прысмак.

Усё ўжо цяпер вядома, —
калісьці такі ахвочы,
цяпер ня выходжу з дому,
толькі калі — уночы.

Зноў паглядзець на зоры,
далёкія тыя . . .
Толькі-ж яны не гавораць,
сьвецяцца — не залатыя.

1959 г.

### ЯК ПАМЯЦЬ НА ВУСНАХ

Калі — ні — калі запішу
радкамі сваю душу
агрызкам алоўку
і зноўку я змоўкну.

За хатаю дрэвы мокнуць
і быццам просяцца ў вокны.

А я, — як на вуснах замок, —
узгрэтаю песьняй замоўк.

Гляджу — і мой шэпат вусны
застаўся як памяць на вуснах,
лірычны, усхваляваны,
сягоняшнім днём датаваны.

Навеяныя радкі
кладуцца з-пад рукі
чужымі радкамі,
як на дарогу прывезены камень.

1959 г.

*Масей Сяднёў*

## Як памяць на вуснах



Масей Сяднёў

### З НАРОДНАГА ЛАДУ

**(вясельле)**

Пры сьмяху і жарце
сьпірт-гарэлку жарце!

Хай пячэ і шчыміць
бабе і мужчыне.

Пусьціліся ў скокі
бабы як сарокі.

Выбірай каторую
хочаш катэгорію:
тонкую хісьлявую,
моцную ці млявую.

Блісьне як зарніцаю
іншая спадніцаю.

Адна вабіць песьнямі,
а другая — персямі.

— Вы, мужчыны, не глядзіце, —
кажуць бабы, — на спадніцы!

— Засьвяціце вы штанамі, —
кажуць бабы, — паміж намі!

— Пацалуйце, абніміце
маладзіцу — не спадніцу!

— Ні бяды ні згубы
цалаваць у губы.

— Ціха і увішна,
абы толькі вышла!

1959 г.

### СУЦЭЛЬНАСЬЦЬ

Не даспаў я толькі ўжо начэй —
хоць-бы сьцішыцца мне на часінку:
дзьве душы ў маёй душы аднэй
між сабой змагаюцца бесьперапынку.

У змаганьні дзьве душы мае
ня прыходзілі яшчэ да згоды.
Ні адна з тых душ не выйграе,
толькі прайграю я сам заўсёды.

Часам навет за сталом адным
мы сядзім ужо аднэй сям'ёю.
Толькі-ж напасьледак, як з чужым,
разыходжуся я сам з сабою.

То люблю я неба сіняву,
то я лаюся бесьперапынку . . .
Гэтак вось сябе я і зжыву —
сам перад сабой на паядынку.

1959 г.

### БОЛЬ

Памалюся за вас — за мяне
ці-ж вы можаце памаліцца?. .
А з-за дрэў, нібы сполах, зірне
белакаменная званіца.

І схаваецца зноў. А боль —
быццам я на крыжы расьпяты.
Памаліцца за іх дазволь —
бачыш, як глядзяць вачаняты?

Яны моляць, і сінь вачэй
іхных смокча высокае неба.
Ты пашлі ім спакой начэй —
можа болей чым навет хлеба.

Заслужылі ў цябе яны
міласэрную ласку.
Дык, зрабі, я малю, іх сны,
іх жыцьцё як міраж і як казку.

1959 г.

### НІ КАНЦА І НІ ПАЧАТКУ

Ні канца і ні пачатку,
толькі ўсё-ж — канец:
палажыла пачатку
сьмерць — цярновы вянец.

І ўжо водблескі сьцюжаць
далёкіх зор . . .
А пад вокнамі ружы —
як далёкі дакор.

Зьнекуль ледзьве даходзіць
сьпеў, як звон касы.
На адлегласьці стагодзьдзя —
дзяцей галасы.

Заклапочаныя, чакаюць,
шалясьценьне ў лісьці.
Цішыня такая,
быццам мае нехта прыйсьці.

Толькі хто гэта з сольлю
стол абрусам накрыў?
Пад высокаю стольлю —
тайна крыл.

Вось і сталася тайна,
найвялікшая з таямніц —
гэтак проста і нязвычайна
як зіхценьне уночы зарніц.

І высокая урачыстасьць
як маўклівасьць села на трон,
завалодала усім чыста
непадкупным нутром.

І як выклік, пальчатку
Ураніла каля сянец . . .
Ні канца і ні пачатку,
толькі ўсё-ж — канец.

1959 г.

* * *

Я кажны дзень паміраю
і ўсё жыву —
веру у прышласьць раю
і ў сіняву.

І спадзяюся: возьмуць
мяне анёлы ў рай . . .
— Трасіся на возе
і не памірай, —

трэба шчэ доўга ехаць,
ды й цяжка папасьці ў рай, —
гавораць анёлы мне нехаця, —
лепей — не памірай.

1959 г.

* * *

Цяпер я ў неба болей закаханы
і бег хмурынак разумею болей, чым калі.
Гляджу у неба я — і зажываюць раны,
што атрымаў я на пакутлівай зямлі.

Гляджу — і турбавацца больш ня трэба,
згладжвае усё у сэрцы сінява.
Ды вось бяда: пачнеш глядзець у неба —
закружыцца адразу галава.

1959—1960 г. г.

(Заканчэньне на 5-й бач.)

*Ф. Кушаль*

3)

## БІТВА ПАД ГРУНВАЛЬДАМ

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

У палове сьнежня 1409 году ў Берасьці адбыўся зьезд Вітаўта й Ягайлы з мэтаю апрацаваньня пляну вайны на выпадак няпрыхільнага для Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы прысуду Чэскага караля. У некаторых нарадах гэтага зьезду браў удзел і хан Джэляль Эддын, сын Тахтамыша, якому Вітаўт даў, разам з татарскім войскам хана, прытулак у Вялікім Княсьцьве Літоўскім пасьля ўцёкаў Тахтамыша з Залатое Арды ад Тамэрляна. На нарадзе ў Берасьці было пастаноўлена:

1) Здабыць крыжацкую сталіцу Мальборк, 2) правесьці канцэнтрацыю арміяў Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы ў месьце Чэрвенску, на ўсходнім беразе Віслы пры зьліцьці ізь ёю Буга, на Мазоўшу, 3) вызначыць на матар'яльную базу абедзьвух арміяў места Плоцк, 4) дзеля няпэўнага становішча Вугорскага караля Жыгімонта, пакінуць дзеля аховы паўдзённае польскае мяжы Сандэцкае рыцарства. Прыгэтым, хан Джэляль Эддын згадзіўся улучыць сваё войска ў армію вялікага князя Вітаўта.

Дыплямацыя Крыжацкага Ордэну ўсяляк прабавала адцягнуць Вітаўта ад саюзу з Польшчаю. Крыжакі прыраклі Вітаўту дапамогу ў атрыманьні ім каралеўскае кароны, ганаруючы яго, як караля сувэрэннае дзяржавы яшчэ ў часе перамоваў на абтоку Салін. Прабавалі яны ўзьдзейнічаць на Вітаўта й праз уплывы Вугорскага караля Жыгімонта, прыхільнага Крыжацкаму Ордэну. І Вітаўту й Ягайле вельмі залежыла на становішчы Жыгімонта ў будучай вайне дзеля бясьпекі паўдзённае мяжы Польшчы. Каб дамагчыся ад Жыгімонта прырачэньня, прынамся, нэўтральнасьці ў выпадку вайны з Ордэнам, Вітаўт і Ягайла запрапанавалі праз сваю дыплямацыю Вугорскаму каралю сустрэчу, каб асабіста паразумецца. Жыгімонт на сустрэчу згадзіўся й вызначыў на яе места Кежмарк у Вугоршчыне, а час — пачатак красавіка 1410 году.

### Вынікі пасярэдніцтва Чэскага караля ў часе замірэньня

Паводля ўмовы замірэньня, падпісанага 8-га кастрычніка 1409 году, якое мела трываць да 24-га чырвеня 1410 году, Чэскі кароль Вацлаў Чацьверты, вызначаны разьемным судзьдзёю між Крыжацкім Ордэнам з аднаго боку й Вітаўтам ды Ягайлам з другога, павінен быў абвесьціць свой прысуд, як ужо ўспаміналася, 9-га лютага 1410 году. На гэты час у Прагу Чэскую й прыбылі дэлегацыі ад Вялікага Княства Літоўскага, ад княства Мазавецкага, ад Польшчы й Крыжацкага Ордэну, каб пачуць прысуд караля-разьемцы ў справе спыненьня вайны. 15-га лютага Вацлаў Чацьверты паведаміў гэты свой прысуд прыбылым дэлегацыям і даручыў кажнай зь іх яго на пісьме. Складаўся прысуд з чатырох пунктаў:

1. Кароль пацьвярджаў усе дамоўленасьці, якія былі зробленыя між варожымі дзяржавамі перад пачаткам вайны й загадваў датрымаць іх.

2. Кажная зь дзяржаваў, што ваявалі, павінна была застацца пры сваіх землях і да якіх мае права на падставе дакумантаў, выданых Апостольскай сталіцай, імпэратарамі, каралямі й князьмі, у тых межах, што былі перад выбухам вайны.

3. Дабжанская зямля павінна была быць зьвярненая польскаму каралю, прычым Польшча атрымоўвала яе назад не раней, чымся Вялікае Княства Літоўскае верне Крыжаком Жамойць. Аднак, крыжацкае войска павінна было пакінуць Дабжанскую зямлю зараз-жа, а тымчасам, да часу, пакуль Жамойць ня будзе перададзеная Крыжаком, кіраваць ёю меўся ўпаўнаважаны караля Вацлава.

4. Ані Крыжакі, ані саюзныя арміі Вітаўта й Ягайлы ня мелі права ўжываць у вайне адны супраць другіх — «няверных».

Гэты апошні пункт Вацлававае пастановы быў выразна накіраваны супраць Вялікага Княства Літоўскага, маючы наўвеце Татараў, не ахрышчаных яшчэ дагэтуль Жамойцаў, а таксама праваслаўнае жыхарства Літвы, якое кароль Вацлаў мог з пэўнаю нацяжкаю гэтакасама залічыць да «няверных».

Прысуд Чэскага караля быў вельмі некарысны й для Вялікага Княства Літоўскага й для Польшчы, але вельмі карысны Крыжацкаму Ордэну. Паводля тэксту другога пункту прысуду вынікала, што ў моцы застаецца ня толькі Салінская ўмова, якой Вітаўт передаваў Крыжаком Жамойць, але й даўнейшыя ўмовы, часта вельмі некарысныя Ліцьве, падпісаныя вялікімі князямі літоўскімі з крыжацкімі містрамі, прыкладам запісы, зробленыя для Крыжацкага Ордэну ў сувязі з прыняцьцем Мендоўгам каталіцтва й каранаваньня яго каралём Літвы. Гэтаксама й Польшча мусіла-б, паводля прысуду Вацлава, зрачыся Памор'я ды іншых сваіх земляў на карысьць Крыжацкага Ордэну, на аснове ўмоваў, падпісаных папярэднікамі Ягайлы на Польскім пасадзе. Дзеля ўсяго гэтага, Вітаўт і Ягайла адмовіліся падпарадкавацца прысуду караля-разьемцы Вацлава й пачалі рыхтавацца да вайны.

### Падарожжа Вітаўта ў Вугоршчыну

Вітаўт выехаў у Кежмарк адзін, хоць ягонае гаспадарства — Вялікае Княства Літоўскае й ня межавалася з Вугоршчынай, бо Ягайла ў вапошнюю часіну адмовіўся ад падорожжа. Сустрэча Вітаўта з Жыгімонтам адбылася 6-га красавіка 1410 году. Хочачы прыхінуць Жыгімонта на свой бок, Вітаўт прывёз каралю й ягонай жонцы нязвычайна багатыя й каштоўныя падарункі: дзясяткі дарагіх паляўнічых сакалоў ды крэчатаў, расавых паляўнічых сабакаў, чыстае крыві жарабцоў з каштоўнымі сёдламі й залатымі падковамі, тысячы найлепшых сабаліных скураў, скрыні пeратыканых золатам і вышытых народным вузорам абрусоў ды ручнікоў, вырабу найлепшых ткальляў Вялікага Княства Літоўскага ды шмат чаго іншага. У часе перамоваў з Вітаўтам, Жыгімонт запрапанаваў яму парваць саюз Літвы з Польшчаю, за што прыракаў Вітаўту каралеўскую карону, а калі Вітаўт станецца каралём — і падпісаньне вайсковага саюзу між Каралеўствам Літоўскім і Вугоршчынай, мэтаю якога была-б абарона Літвы ад Польшчы. Адылі, Вітаўт абедзьве згаданыя Жыгімонтавыя прапановы адкінуў.

Тымчасам, на час перамоваў Вітаўта з Жыгімонтам, у Кежмарк патаемна прыехалі крыжацкія агенты й шпікі, якія неўзабаве даведаліся аб адмове Вітаўта парваць саюз зь Ягай-

# Іх меў на ўвазе Франсуа Рабле

**Паводля анатацыі да кніжкі на агульнапрымусовай у СССР мове: «Города и села Белорусской ССР»**

**Гістарычна-геаграфічныя нарысы, Менск, 1959 г.**

Ейныя аўтары — «Вадим Андреевич Жукевич, Андрей Яковлевич Малышев, Неофид Ермолаевич Рогозин» зьяўляюцца кандыдатамі геаграфічных навукаў. Дарэчы, калі ў мінулым Карскі, Даўнар-Запольскі, Ластоўскі, Сапуноў, Насовіч, Раманаў, Шэйн, Нікіфароўскі і іншыя ня супольна, а паасобку стварылі шматтамовыя працы, дык магчыма кніжка ў 278 бачынаў, напісаная трымя савецкімі навукоўцамі, стаіць на значна вышэйшай узроўні? Каб пераканацца — ці гэта так ці не, пераходжу да разгляду іхняе кніжкі, прычым аўтараў далей мяную не паводля імя і па бацьку, як яны на замаскварэцкі вузор рэкамэндуюцца чытачом, а проста — кандыдатамі. І разгляд распачынаю з фактаў, пасьля азнаямленьня зь якімі паўстае пытаньне — ці аўтары зьяўляюца пераважна кандыдатамі геаграфічных навукаў, або перадусім кандыдатамі ў сябры КПСС?

Калі даць веры кандыдатам, дык — «ля вёскі Лісуны да Айчыннае вайны захоўваўся цікавы гістарычны помнік — Рагвалодаў камень» (бач. 135). У чытача адразу ствараецца ўражэньне, што гэты найвыдатнейшы помнік запраўды разбураны ў часе Другое Сьветавае вайны а да яе, маўляў, ён старэнна ахоўваўся. А ў запраўднасьці, паводля дэфэктнага акту, складзенага 28 верасьня 1939 г. навуковай экспэдыцыяй, якую ачольваў аўтар гэтых радкоў, Рагвалодаў камень быў падарваны 10 ліпеня 1936 г. Яго падарвалі работнікі, якія падрыхтоўвалі каменьне для пабудовы аўтамагістралі Масква-Менск, хоць па сваіх тэхнічных якасьцях (крохкі) ён зусім не надаваўся для дарожнага будаўніцтва. На плошчы ў 40 квадратовых мэтраў экспэдыцыя знайшла ад валуна, памерам 3 з паловай на 2 з паловай мэтры і вагай без малага ў 65 тонаў, 28 аськепкаў, зь якіх на 12 былі адзнакі крыжу і надпісу. Між іншым Рагвалодаў камень знаходзіўся й ня ў Лісунох, а ў 8 кілямэтрах ад іх паблізу вёскі Дзятлава (калгас «Чырвоны Мэліяратар») Тумініцкага с. / с. Аршанскага р. Віцебскае вобласьці. Але справа нарэшце палягае ня ў гэтай геаграфічнай, а ў кагадзе зазначанай гістарычнай мане — відавочна для кажнага, што ўнікальны помнік гісторыі Рагвалодаў камень, які належыў да нацыянальных рэліквіяў, зьнішчылі не фашыстыя, а камуністыя.

Далей кандыдаты сьцьвярджаюць, што дом мастака Рэпіна ў былым двары Здраўневе Мікалаеўскага с./с. Віцебскага р. і вобласьці — «спалілі за часы Айчыннае вайны фашыстоўскія захопнікі» (бач. 123). Прыгадаем, што тут, у 14 кілямэтрах ад Віцебску, з 1891 па 1900 год летаваў Рэпін у доме з бэльвэдэрам-майстэрняй, перабудаваным у 1892 г. паводля ягонага малюнку. Каля дому мастак насадзіў прысады, ахвяраваў бліжэйшай царкве ў Слабадзе-Вярхоўі, на могільніку каля якое пахаваў бацьку, абразы свае работы. Мне давялося не аднойчы і разам з экспэдыцыяй і паасобку наведаць Здраўнева. Мы пераканаліся, — а гэтае пераканаьне знайшло адбітак і ў вадмысловых дакумантах і ў тагачасным друку, — што яшчэ ў 1932 г. тутэйшыя ўрадоўцы, з дазволу віцебскіх, раскапалі без усякае пільнае патрэбы дом і высяклі прысады, праз два гады без тае-ж патрэбы разбурылі царкву, што сама па сабе зьяўлялася цікавым помнікам драўлянае архітэктуры 17-га стагодзьдзя, а занядбаная магілка бацькі мастака напалову зраўнянлася зь зямлёй і парасла пустазельлем. Усё гэтае зьнішчэньне і разбурэньне адбывалася задоўга перад Другой Сьветавай вайной і пэўне-ж не фашыстыя, а камуністыя за іх адказныя.

На думку кандыдатаў (бач. 113), Віцебск заснавала ў 974-м годзе — «княгіня Вольга ў дарозе з войскам да Кіева пасьля перамогі над Яцьвягамі і Печанегамі». Яны пры гэтым спасылаюцца на кнігу М. Кацара «Беларуская архітэктура», а той у сваю чаргу на «Летапіс горада Віцебску, сьпісаны зь летапісу Міхаіла Панцырнага ў 1760 г. Сьцяпанам Аверкам з уласнымі ягонымі і бацькі дадаткамі». Між тым, яшчэ Сапуноў давёў навуковую бязгрунтоўнасьць гэтага паданьня. Запраўды досыць толькі ўявіць сабе той час, каб прыйсьці да высноваў, што ехаць тады пасьля перамогі над Яцьвягамі й Печанегамі да Кіева праз Віцебск, гэта тое-ж самае, што за нашыя часы накіравацца зь Віцебску да Менску праз Тамбоў.

На бачыне 122-й свае гаротлівае кніжкі кандыдаты спрабуюць давесьці нам, што назоў Віцебскае Маркаўшчыны — «паходзіць ад манастыра сьв. Маркі, заснаванага тут у 17-м стагодзьдзі». Слоў няма, назоў Маркаўшчыны паходзіць ад Маркавага манастыру, але затое манастыр набыў свой назоў не ад сьвятога эвангелістага Маркі — патрона Вэнэцыі, а ад земяніна (вайскова забавязанага шляхціца) Маркі, які аднавіў яго. А ўвогуле манахаў з манастыра пад Віцебскам прыгадвае яшчэ скарга ад 1286 г. магістрата Рыгі віцебскаму князю Міхаілу.

У Полацку, на тэрыторыі былога Верхняга замку кандыдаты нечакана знайшлі — «штучны ўзгорак («холм») з паркам». Між іншым геаграфія зусім ня ведае штучных узгоркаў, якія заўсёды маюць тое ці іншае натуральнае паходжаньне (марэны, дзюны, бярханы), а затое гісторыя спакінула нам курганы, або валатоўкі, ці сопкі — колішнія магілы, капцы — даўнія верставыя слупы, валы — вайсковыя ўмацаваньні і г. д. У Полацку маем вал Ніжняга замку, накапаны каля 1565 г. князем Шуйскім, паводля загаду Івана Грознага. Што датычыць Верхняга замку, дык ён займаў натуральнае ўзвышша паміж Дзьвіной і Палатой, над якім дагэтуль пануе сабор Сьвятое Сафіі.

У тым-жа Полацку кандыдаты ўгледзілі — «старадаўны будынак кадэцкага корпусу 17-18 стагодзьдзяў». Чытач адразу насьцярожваецца — якія гэта кадэты былі ў Полацку 17-га стагодзьдзя? У запраўднасьці-ж гутарка йдзе пра будынкі езуіцкае калегіі, пабудаванае за часы Сьцяпана Баторага ў канцы 16-га стагодзьдзя. Толькі з 1835 г. у гэтых будынках знаходзіўся кадэцкі корпус.

Паміж цьвярдынямі, пабудаванымі за часы Лівонскае вайны Іванам Грозным вакол Полацку, кандыдаты прыгадваюць і Ўсьвят. Між тым гістарычны аднагодак Віцебску (1021 г.) стары Ўсьвят знаходзіцца ў 130 кілямэтрах ад Полацку, на паўночны ўсход ад яго.

У сувязі з Копысям яны ўспамінаюць Пятроў вал, які па іхняму вокамернаму або завочнаму вылічэньню мае — «вышкі больш за 3 мэтры». З фармальнага пункту гледжаньня тут усё ў парадку. Хіба-ж, напрыклад, Эвэрэст або Манблян ці Кіліманджара ня вышэйшыя за 3 мэтры? Аднак Пятроў вал у Копысі, што падобны па сваёй формы да эліпсы, мае ўвышкі акурат 6, а ўдоўжкі 385 мэтраў. Дарэчы нам Беларусам Пётра Першы больш знаны, як падпальшчык нашых гарадоў (Віцебск, Магілеў) і забойца манахаў (Полацак, Сабор Сьвятое Сафіі), а таму ня маем асаблівых падставаў для ўшанаваньня ягонае памяці, але затое бальшавіком — крэўным спадкаемцам расейскага імпэрыялізму неяк ня выпадала зьнішчыць тут у Копысі ў 1931 г. дом Пётры Першага.

Не абмінулі кандыдаты й Магілева, заўважыўшы, між іншым, на бачыне 146-ай, што разны драўляны іканастас ягонае старадаўнае Мікалаеўскае царквы 17-га стагодзьдзя — «блізкі па сваёй кампазыцыі і характару разьбарства да іканастасу, які захоўваецца ў гістарычным музэі ў Маскве». Цяжка сказаць, чаго ў гэтай заўвазе больш — плыткасьці або падлабызьніцтва? У 16-17 стагодзьдзях у Маскве апынуліся тысячы беларускіх фахоўцаў, якія галоўным чынам зьяўляліся «ўзятымі па гасудараву загаду палоньнікамі». Гэткія аўтарытэтныя дасьледнікі гісторыі расейскага мастацтва, як Забелін, Сабалёў, Грабар, Чынякоў сьцьвярджаюць, што беларускія майстры, а паміж імі асабліва разьбары, былі тэхнічна больш пісьменныя, чым маскоўскія. Уласьне за тыя часы Масква зь вялікім захапленьнем пабачыла «беларускую рэзь» або — аб'ёмнае, ажурнае, падобнае да скульптуры разьбарства. І як у прыгнечаных слуцкіх ткачыхаў Максіма Багдановіча родны васілёк стаўся пераможцай над пэрсідзкім вузорам, так і тут беларускі расьлінны арнамэнт гэтак аздабіў палац сяла Каломенскага пад Масквой, што аб ім выхвальнік маскоўскіх царэвічаў і паэта, які першым пазнаёміў Расейцаў з сылябічным вершаскладам, Беларус Сымон Полацкі пісаў:

«Множество цветов живонаписаных
и острым хитро длатом изваяных
Удивлятися всяк ум понуждает
правый бо цветник быти ся являет».

Не зьдзіўляйцеся, але паводля бадай безапэляцыйнага пагляду кандыдатаў, выказанага імі на бачыне 45-й, крымскія Татары, зьнішчыўшы ў 1505 г. Менск, потым назаўсёды аселі ў ім, стварыўшы такім чынам ягоны Татарскі Канец. Агульнавядома, што звычайна самыя асядаюць пераможцы, а Татары на Беларусі, ня гледзячы на свае тымчасовыя там-сям перамогі, урэшце-рэштаў заўсёды зьяўляліся пераможанымі. Запраўды, даволі прыгадаць тут перамогі Міндаўга над Койданам пад Койданавам ды над Шэйбакам на Шэйбак полі ў 50 кілямэтрах на паўночны захад ад Ліды, Глінскага пад Клецкам і г. д. Пераважная бальшыня беларускіх Татараў складалася з хаўрусьнікаў, палоньнікаў і эмігрантаў, што аселі на Беларусі пераважна за часаў Вітаўта, якога й цяпер Татары прыгадваюць у сваіх малітвах, як Ваттада. А чым сталася для Татара Літва-Беларусь, сьветчыць іхні прачулы ліст да Жыгімонта Старога ў 1518 годзе:

«Мы прысягалі на нашыя мячы, што любім Літву, калі ў часе вайны нас уважалі за палонных, а пры нашым уваходзе на гэтую зямлю нам казалі, што гэты пясок, гэтыя воды й гэтыя дрэвы будуць нам супольнымі. Вітаўта ведаюць нашыя дзеці і ў Салоных Водах (Крым) і ў Кіпчаку, што мы ў нашай зямлі ня чужынцы».

Нельга не згадзіцца з кандыдатамі, што — «паблізу Барысава знаходзяцца гістарычныя месцы Айчынае вайны 1812 году», але затое вельмі спрэчнае іхняе шчырае пераканаьне, што пераправа напалеонаўскіх войскаў праз Бярозу адбылася — «пасьля пагрому іх каля вёскі Студзёнкі» (бач. 87). Трагічная пераправа й адбывалася ля ўзьбярэжнае вёскі Студзёнкі, хаты якое былі раскапаныя Французамі для пабудовы мастоў праз Бярозу. Між іншым, тут да 1931 г. існавалі два помнікі, разбураныя дашчэнту барысаўскімі міліцыянэрамі. Навуковая экспэдыцыя 1939 г., складаючы дэфэктны акт удакладніла, што яны шукалі ў падмурках помнікаў залатыя царскія пяцірублёвікі, пакладзеныя туды ў часе закладкі іх і патрэбныя савецкаму ўраду за «Торгсин»-аўскія часы.

У галіне тапанімікі, разьдзел якое ў кніжцы анатацыя ставіць у васаблівую заслугу кандыдатам, яны тым ня менш нагадваюць не навукоўцаў, а рахункаводаў. Вельмі ўжо нескладаная справа, калі ёсьць пад рукой сьпіс 25.000 насялёных пунктаў БССР, падлічыць колькі краіна мае Забалоцьцяў, колькі Дубкоў і г. д. Ніхто таксама не пачне аспрэчваць паходжаньня тых Забалоцьцяў ад балотаў і Дубкоў ад дубу. Гэта навет і ня лінія найменшага супраціву матар'ялу, бо тут аніякага супраціву няма. Аднак і гэта не галоўнае. А галоўнае тое, што няма ў кандыдатаў пачуцьця замілаваньня да гэтых геаграфічных назоваў, любові да іхнае нязвычайнае звычайнасьці — яны калескія рэгістратары ад савецкае навукі.

Справа навет ня толькі ў тым што ад вішні паходзіць назоў Вішнева, а Сьлівіна ад сьлівы, а ў тым што ў першым Карловіч напісаў Літоўскую рапсодыю, а другое мае дачыненьне да Яна ізь Сьлівіна — Адама Кіркора, у Дубічах пахаваны Нарбут, Дуброўна паэтычна адбілася ў «Лерных сьпевах» Максіма Гарэцкага, зь Цяпіна прыйшоў Васіль Цяпінскі, а з Грыневічаў Ігнат Грынявіцкі, і г. д., і г. д.

Але ці ня хопіць? Хоць можна прывесьці яшчэ дзесяткі прыкладаў нявуцтва трох аўтараў. Сумлеўна, каб яны арганічна авалодалі тэй багатай літаратурай, паказьнік якое ёсьць у канцы кніжкі. Пэўне-ж, кандыдаты геаграфічных навукаў не ўзьняліся вышэй за расейскага недалетка фанвізінскага Мітрафанушку, якому вакольныя даводзілі — навошта табе ведаць геаграфію, калі на тое фурманы ёсьць?

«Што-ж датычыць гуманітарных навукаў, ведаў старажытнасьцяў і гісторыі, дык яны аздоблены імі ня больш, чым рапуха пёркамі»

— гэтак заўважыў яшчэ ў 16 стагодзьдзі Франсуа Рабле аб сучасных яму юрыстых. І гэтае выказваньне гэніяльнага Француза цалкам характарызуе і трох бэсэсэраўскіх кандыдатаў геаграфічных навукаў.

**Юрка Віцьбіч**

---

## *Як памяць на вуснах*

**(Заканчэньне з 4-ай бач.)**

**ЗАЛАТОЕ ШУГАНЬНЕ**

Мне спаць уночы не даюць
цяжкія самалёты:
страшэнна рэжуць муць
начную сваім лётам.

Куды і што нясуць яны?
І дзе яны яшчэ кружылі?
Я чую дрож сьцяны,
як дрож у собскіх жылах.

А як-бы я хацеў цішы,
калі ня ўдзень, дык хоць-бы ўночы —
даўно ўжо у маёй душы
ня сьніўся сон прарочы.

Лятуць ніжэй і ў вышыні.
Агні патушаць і засьвецяць.
Лятуць . . . Лятуць . . .
І цішыні
няма на цэлым сьвеце.

І ў сполаху імкнуць далоў,
як самагубцы зь неба зоры —
шуганьне залатых галоў
пад рэха гулкае матораў.

1959 г.

---

**ПАМЁР АКАДЭМІК У. ПЕРЦАЎ**

Савецкая прэса паведаміла, што 3 чырвеня сёлета на 83-м годзе жыцьця памёр загадчык катэдры ўсеагульнай гісторыі беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, доктар гістарычных навук, прафэсар Уладзімер Перцаў. У. Перцаў нарадзіўся ў Расеі, але з 1921 г. працаваў на Беларусі, напісаў колькі досьледаў зь сераднявяковае гісторыі беларускага народу.

---

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

---

лам. І калі, скончыўшы размовы з каралём, Вітаўт прыбыў позна ўвечары да господы і паклаўся спаць, паблізу ягонае кватэры выбухнуў з таямнічае прычыны вялізны пажар. Карыстаючы з гэтага, крыжацкія агенты пачалі пераконваць жыхароў Кежмарку, што места падпалілі чужынцы з далёкае Літвы. Разьюшаны натоўп уварваўся ў господу Вітаўта й напэўна забіў-бы й яго й ягоную дэлегацыю, як «падпальшчыкаў», каб тыя не ўцяклі зь Кежмарку, сьцяміўшы на час, у чым справа. Даведаўшыся, што Вітаўт пакінуў Кежмарк, Жыгімонт выехаў сьледам за ім і дагнаў яго недалёка ад места, каб разьвітацца. І хоць разьвітаньне было вонкава ветлівае, шмат гаворыць за тое, што Вугорскі кароль ведаў аб рыхтаваным на Вітаўта й ягоную дэлегацыю замаху ў выпадку, калі Вітаўт ня згодзіцца на прапановы, зробленыя яму ў часе перамоваў.

Гэтак трагічна скончылася місія Вітаўта нэўтралізаваць Вугорскага караля Жыгімонта ў вайне Вітаўта й Ягайлы з Крыжацкім Ордэнам.

Спробы замаху на Вітаўтавае жыцьцё, аднак, гэтаю аднэю ня скончыліся. Крыжакі спрабавалі забіць Вітаўта ў другі раз, калі ён аб'яжджаў заходнія землі Вялікага Княства Літоўскага, крыху пасьлей. Калі Вітаўт, пакінуўшы Ваўкавыск, прыехаў быў ужо ў Слонім, Крыжакі, спадзяючыся засьпець яго яшчэ ў Ваўкавыску, неспадзявана зрабілі «рэйзу» на гэтае места й ‚для пэўнасьці' спалілі яго ўшчэнт. Аднак, далей Ваўкавыску яны не пайшлі й вярнуліся назад.

### Мабілізацыя й канцэнтрацыя арміяў Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы

Вярнуўшыся з Вугоршчыны ў палове красавіка 1410 году, Вітаўт зараз-жа даў загад аб правядзеньні ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім агульнае мабілізацыі. Мабілізацыя гэтая адбылася ў ваяводзтвах: Віленскім, Троцкім, Ковенскім, Падляскім, Віцебскім, Смаленскім, Берасьцейскім, Наваградзкім, Пінскім, Полацкім, Старадубскім і Кіяўскім (Тадэуш Корзан, «Гісторыя войнаў і вайсковасьці ў Польшчы»). Як бачым, мабілізацыя была праведзеная Вітаўтам на ўсёй этнаграфічнай прасторы Беларусі, у Жамойці й частцы Украіны, Кіяўшчыне. У гэтым самым часе была праведзеная мабілізацыя і ў Польшчы ды Мазоўшы, што было тады незалежным ад Польшчы княствам. Як вялікія былі арміі прыгаданых вышэй гаспадарстваў пасьля мабілізацыі, — пагляды паасобных гісторыкаў міжсобку разыйходзяцца. Апошнія досьледы, праведзеныя ў гэтай справе вайскова-гістарычнай камісіяй пры міністэрсьцьве Нацыянальнае Абароны Польшчы, абвешчаныя друкам у Варшаве ў 1955 годзе ў кнізе «Вялікая Вайна з Крыжацкім Законам у 1409-1411 г. г.», выданай пад рэдакцыяй Стэфана Кучынскага, падае, што ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім мабілізацыя магла даць да 17.000 жаўнераў, да чаго дайшла невялікая лічба, бо каля тысячы, наемных Малдавянаў ды каля 1.000 Татараў. Дадзеныя гэтыя прыгаданая вышэй вайскова-гістарычная камісія атрымала ня толькі з архіўальных дакумантаў, але й з аблічэньняў, колькі жыхарства было ў гэным часе ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім, а колькі ў Польшчы й які працэнт мужчынаў мог быць тады ў веку, адпаведным дзеля вайсковае службы. Што датычыцца Польшчы, дык там мабілізацыя (разам з Мазоўшам) магла даць каля 22.000 жаўнераў,да чаго дайшлі паўтары тысячы наемных Чэхаў і Мараўцаў. Разам-жа арміі Вітаўта й Ягайлы складалі 39 тысячаў жаўнераў. Да гэтых 39 тысячаў, што бралі ўдзел у баёх, трэба дадаць яшчэ абслугі табароў, асабістую службу рыцараў ды іншыя гаспадарскія службы, якія ня мелі ўплыву на самое змаганьне.

З гледзішча нацыянальнага, армія Вялікага Княства Літоўскага складалася ў вялікай бальшыні з нашых продкаў-Беларусаў, якія, адылі, ня зваліся яшчэ ў тыя часы Беларусамі, але Ліцьвінамі; з Жамойцаў, якія сяньня завуцца Летувісамі ды іншых меншых балцкіх пляменаў; з Украінцаў,(зь Кіеўшчыны), якія ў тыя часы зваліся Русінамі, невялікае колькасьці наемных Малдавянаў ды каля 1.000 Татараў.

Расейцаў, ці, як іх тады звалі, маскоўцаў, а таксама жаўнераў з Пскоўшчыны й Ноўгараду — у арміі Вялікага Княства Літоўскага — ня было, як ужо тутка зазначалася, Маскоўскі князь Васіль Першы прырок Вітаўту захаваньне поўнае нэўтральнасьці Маскоўшчыны ў вайне Вялікага Княства Літоўскага з Крыжацкім Ордэнам. Гэткія-ж дамоўленасьці былі зробленыя Вітаўтам і з рэспублікамі Пскоўскай ды Ноўгарадзкай.

Польская армія складалася з Палякаў, Русінаў з Чырвонае Русі, што завуцца цяпер галічанамі, Русінаў з Падоля, ды наемных Чэхаў і Мараўцаў.

Паводля архіўальных аблічэньняў. Крыжацкая армія, разам з рыцарамі, якія прыбылі з Заходняе Эўропы ў выніку крыжацкае прапаганды і ўліліся ў шэрагі Крыжакоў, — лічыла да 32.000 жаўнераў. З дадзеных тутка лічбаў відаць, што злучаныя арміі Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы былі колькасна большыя за крыжацкую. Аднак, Крыжацкая армія была непараўнальна лепшая за армію Вялікага Княства Літоўскага ці Польскую паводля азбраеньня, фаховага вышкаленьня й дысцыпліны.

Што да нацыянальнага складу, Крыжацкая армія складалася ў бальшыні зь Немцаў, да якіх далучаліся ў невалікай колькасьці рыцары з Францыі, Італіі, Гішпаніі ды іншых заходня-эўрапэйскіх дзяржаваў. Было ў Крыжацкай арміі й шмат Палякаў, якія як князі Сьвентабор Шчэцінскі, Багуслаў Слупскі й Ульрых Старагардзкі, будучы даўжэйшы час пад непасярэдным уплывам Крыжакоў, узялі ў вайне ўдзел па баку Крыжацкага Ордэну.

Канцэнтрацыя арміі Вялікага Княства Літоўскага адбылася ў раёне Горадні. 3-га чырвеня армія выйшла ў паход, накіраваўшыся сьпярша на паўдня. Дайшоўшы да ракі Нарвы, яна пайшла паўдзённым ейным берагам у кірунку Чэрвенска, што быў вызначаны месцам спалучэньня арміяў Літоўскай і Польскай. 29-га чырвеня армія Вітаўта пераправілася праз Буг недалёка ўтокаў у яго Нарвы й дасягнула Чэрвенску 30 чырвеня 1410 году.

Польская армія зьбіралася ў мясцовасьці Вельбож.

Калі арміі Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы, а таксама й армія крыжацкая былі змабілізаваныя й машыравалі да месцаў сваіх канцэнтрацыяў, Вугорскі кароль Жыгімонт, якому Крыжакі абяцалі добра заплаціць за фатыгу, яшчэ раз спрабаваў памірыць варожыя бакі. З гэтай мэтай у Вальбож прыбылі ўпаўнаважаныя Жыгімонта, прапануючы мір. Дзеля таго, што замірэньне канчалася 24-га чырвеня 1410 году, дык упаўнаважаныя Жыгімонта запрапанавалі Ягайлу прадоўжыць за-

# Успамін

**(Пераклад зь фінскага)**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Пэттэры Ахола, фінскі рэпартэр. Рэдактар фінскамоўных газэт «Нева», «Інгеры». Нарадзіўся ў 1875 г., памёр у 1919 г., пражыўшы ўсяго 44 гады. Пакінуў па сабе шмат рукапісаў, зьмяшчаючых рэпартажы падарожжаў па Беларусі ў часе Першае сьветавае вайны. У сувязі зь сёлетнім Годам Уцекачоў увазе чытачоў «Бацькаўшчыны» прапануем пабеларуску зроблены пераклад аднаго зь фінскіх рэпартажаў Ахолы, нідзе дагэтуль нядрукаваны.

Узімку 1915, калі я вандраваў па краінах іншых, чым па закуцьці Інгерманландыі, тады бачыў усялякае. Гэта былі для мяне новыя назіраньні, як у гэтыя цяжкія часы народ жыве тутака ў Віцебскай губэрні гэтак на вёсцы, як і ў гарадох.

Гарады поўнасьцю запружданы ўцекачамі ад вайны, якіх усё больш і больш ідзе з Захаду, з Польшчы. Гэта т. зв. бежанцы: Палякі, Летувісы, Жыды й таксама Беларусы, зь якімі першае знаёмства пачалося.

Вязуць з сабою маленькія й вялікія вузелчыкі і між імі, гэтымі бежанцамі, і іх дабыткамі на чугуначных станцыях бачыш сьпячых маленькіх дзяцей, а тыя, што большыя й старэйшыя векам, дык гуляюць, ці гамоняць бясклопатна. Іншыя зь іх, галодныя працягваюць свае бледныя ручкі кажнаму падарожнаму, на якім хоць крыху лепшая вопратка. На дзіцячых тварах адмалявана бездапаможнасьнь, вялікае гора, бяда-мука. Рух іх не дзіцячы, а старцаў, якія прайшлі сваё жыцьцё — да глыбокае старасьці.

Усё, што бачыў вакол, зрабіла боль у маім сэрцы. Ня гледзячы на тое, што я ад доўгага падарожжа вельмі прыстаў і дужа хацеў знайсьці прытулак на нейкай станцыйнай лаўцы, але лавак вольных ня было... Да сну ня было магчымасьці... Перада мною адамкнуўся сьвет сяньняшніх дзён, падобны перапоўненаму крывёй і потам, пераліваючаму бурлістай пенай церазь берагі кубку; горкай пенай, якая сьцякае і падае цяжка на ніз чалавечым горам.

Думаў аб непатрэбнасьці вайны. Чарада маіх думак перапаўняла мяне жахам праз увесь час дарогі па хвіліну сяньняшняга дня, калі я прыбыў, у перапоўненым зьверх усякае меры людзьмі цягніку — сюды.

Вайна! Млын загубы людзей і добрых дасягненьняў чалавецтва! Выклікала цябе жаднасьць грошаў? Адных, другіх? Не, ані гэтыя — цені, гэтыя замучаныя й брудныя за час падарожжа людзі зрабілі гэту вайну! Ня іх маткі, ня іх бацькі, а таксама ня іх прадзедаў дзяды. Яны не зрабілі гэтага — у гэтым я ўпэўнены, і гэта думка падымала мой настрой. Гэтак сама падбадзёрвала тое, што я знаходжуся сярод невінаватых, шмат пакрыўджаных, такіх самых, як і я, ня гледзячы на тое, што я не разумеў усяе іх мовы, тым не менш, я зразумеў іх думкі і дзеля гэтага яны ўсе былі мне, як браты-суродзічы.

Меркаваў у сваіх думках: як-жа?! Ці думаюць яны, хоць крыху, чаму, чаму гэтак церпяць? Хто адказны за вайну, а таксама за вынікі вайны? Адказаў сабе сам, што ня ўсе, і ня зусім ведаюць аб тым. Бачыў у сваіх думках іх вялікімі, нявінным ахвярамі на шляху агульна-гістарычнае Гальготы. Гэтакімі яны сталі мне больш любымі.

У ваднае жанчыны я ўзяў яе меншае дзіцё, бо ня мела месца куды яго палажыць, тым часам, калі трэба было вызваліць рукі дзеля апекі над другімі дзяцьмі. Маці адчытала, як у кніжцы, маю думку і ня сказаўшы, ані слова, паклала на мае працягнутыя рукі гэты вузелчык з задаткамі чалавечка, так як быццам гэта і раней датычыла маіх абавязкаў.

Трыумф у грудзях,
сон, жаль, гора перамог
Калі чалавек на рукі ўзяў
кветку жыцьця — дзяцёнка.

Ураз-жа пігмэямі — карлікамі
сталіся усе асілкі — тыраны!

Бо сваімі, асьвечанымі агнём душы,
вачыма бачу пачатак новага часу.

Моц людзтва змрок разьвее,
Калі братэрства пачнецца хутка!!

Сядзеў я тутака пасярод групы людзей аднолькавага лёсу, чуючы бясконцую радасьць прыналежнасьці да ўсіх. Забыўся, што я з далёкае, паўночнае Фінляндыі, з краю сьцюжы, быццам я ўжо тут даўно належу да гэтае сям'і абязdоленых крыўдай гаруноў.

Жанчына, калі выканала ахову другіх сваіх дзетак, палажыўшы іх спаць, зьвярнулася да мяне на мове, якая напамінала рускую, каб паглядзеў яе дабытак і дзяцей у тыя хвіліны, калі ёй трэба адлучыцца. Я кіўнуў галавой, ня кажучы нічога, і толькі паглядзеў ласкава на дзяцей. Сядзеў і пачуваў сябе добра і гэта была самая вялікая ўзнагарода. Я забыўся пра стому ня толькі дзесяцігадзіннае бязсоннасьці. Ну, вось што яшчэ! Пажартаваў у думцы я. — Гэтыя людзі вакол думаюць, што я з'яўляюся бацькам гэтае сям'і.

Маці праторыла сабе шлях праз натоўп людзей і адтуль канчаткова дасталася да дзяцей, але да вузлоў не магла дастацца, бо яе маленькае месца ног на падлозе было ўжо занята якімсьці чалавекам, і яна засталася на паўдарозе... што робіць? Я пагледзеў рашучым позіркам у твар гэтага, заняўшага яе пляц, чалавека, рухам галавы паказаў, каб ён вызваліў месца для маці і казаў на пацьверджаньне:

— Пусьці маці да маіх дзяцей!

Той, які быў захапіўшы пляц, хутка ўстаў і адыйшоў. Жанчына села на свой вузел і падзякавала мне, значна павесялеўшы, на сваёй мове.

Калі ўсё ізноў было ўладжана і жанчына знайшла сабе прыдатны пасад, прыкінуўшы сваю сьпіну да нейкага большага пакунку, дык яна запатрабавала сваё дзіцё з маіх рук назад. У мяне, аднак, зьявілася сьмелая думка, сказаць парасейску — магчыма яна зразумее мой намер — лепш каб для забясьпечаньня яе ад турбот з боку другіх падарожных, нас лічылі за адну сям'ю, і я сказаў рашуча — адпачывай ты, ты-ж замарылася да рэшты, я ахвотна пагляну нашае меншае дзіцё ў часе, калі яно сьпіць гэтак добра.

Жанчына адказала таксама парасейску, гледзячы з даверам на мой сур'ёзны й трохі вясёлы бліск вачэй:

— Дзякую за ласку тваю! Я чуюся зморaная, і мне вельмі патрэбен сон.

Гэтак сядзелі ўсю ноч. Жанчына хутка заснула й яе галава асунулася мне на правае калена, каля галавы яе дзіцяці.

Ня гледзячы на тое, што мае ногі закрэплі й балелі мускулы, я непарушна сядзеў, без жалю, чуў толькі без канца ўсясьветнае будучае шчасьце. Шмат думаў у гэтую доўгую ноч...

✳

Думаў аб сваіх дзецях, аб загубленым часе шчасьця... Аб усім думаў. Думаў, што трэба рабіць, каб наступіла хутчэй новая эра чалавецтва.

✳

Ночай перад наступленьнем раніцы, у гэтай вялікай залі вакзалу, сярод храпу сьпячага мора людзей, то там, то сям у розных напрамках, чуўся плач і выкрыкі маленькіх дзяцей. Паветра ў залі было цяжкае. Дыхаў я толькі кароткімі штуршкамі - інтэрваламі, балела галава і быў вельмі змучаны. «Маё» дзіцё таксама з пачатку крыху падало жаласны голас, як праз сон, потым на ўсё сяло, ўсё больш патрабуючым голасам, пакуль не прабудзіліся ўсе. Разбудзілася й маці «маёй дзяцюлькі», узяла яе да сябе. Цяпер я ў сваю чаргу папрасіў паглядзець мае падарожнае маемасьці і астаткам сіл ўстаў з свае валізкі. Паміж людзей і пакункаў пачаў праштурхоўвацца да выхаду, на свежае паветра, але гэта было ня лёгка зрабіць.

Парабіў гімнастычныя рухі, падыхаў глыбока халодным паветрам, праверыў табель руху цягнікоў. Засталося яшчэ 5 гадзін да адыходу майго цягніка. Пахадзіў на плятформе і празь некаторы час вярнуўся ў напалову асьветленую залю, асьцярожна крочачы праз і паміж сьпячых людзей.

Урэшце я прыйшоў ізноў да «свае сям'і». Маці ладзіла зо сну сваю маленькую, і тады я ўбачыў, што яна падрыхтавала мне маленечкі, каля паўтара аршына даўжыні пляц і запрапанавала мне легчы адпачыць. Падзякаваў ёй за гэты вялікі клопат і папрасіў «сваю жонку» разбудзіць мяне да прыходу цягніка. Адначасова я даведаўся, што і яна едзе гэтым самым цягнікам. Хутка я заснуў, забыўшыся на ўсе турботы гэтага сьвету.

Прабудзіўся я ад руху, гоману і штуршкоў людзей. Першапачаткова я падумаў аб алярме і крыху, спрасоньня спа-

(Заканчэньне на 7-ай бач.)

## Зь беларускай песеннай скарбніцы

**Ад Рэдакцыі:** Пачынаючы з гэтага нумару, будзем час ад часу друкаваць беларускія песьні з нотамі й іхны набор разам з клішамі нотаў перахоўваць, каб пазьней выдаць зборнік беларускіх песьняў з нотамі для масавага выкананьня. Выбар тэкстаў песьняў і выкананьне нотаў узяў на сябе беларускі кампазытар праф. Мікола Куліковіч.

### Зялены дубочак

Лірычная беларуская народная песьня

**Апрацаваньне М. Куліковіча.**




1. Зялёны дубочак,
Шырокі лісточак, —
Куды вецер вее, (2 разы)
Туды гольля гнуцца.

2. Сягоньня сыбота,
А заўтра нядзеля, —
Чаму ў цябе, хлопча, (2 разы)
Кашуля ня бела?

3. — Ой, бела, ня бела,
А заўтра нядзеля:
Маці мая стара, (2 разы)
Сястра ў мяне мала.

4. Пайду я на рэчку,
Стану на пясочку,
Памыю-жа чыста (2 разы)
Сваю я сарочку.

5. У тую-ж сарочку
Тады прыбяруся,
Калі, маё сэрца, (2 разы)
З табой ажанюся.

**Заўвага:** Арыгінальная народная мэлёдыя ідзе ў нотным прыкладзе першыя тры тахты ў верхнім голасе, а апошні тахт — у ніжнім.

### Цераз сад-вінаград

Жартоўная беларуская народная песьня.

**Апрацаваньне М. Куліковіча.**




1. Цераз сад-вінаград
Па ваду хадзіла,
Чаму-ж мяне той ня ўзяў, (2 разы)
Каго я любіла?

2. А узяў мяне той,
Каго я ня знала
Усё за тыя пераборы (2 разы)
Што перабірала.

3. I капустка мая,
I лісточкі мае, —
Дзе мой мілы пахаджае (2 разы)
Там і вочкі мае.

4. I капустка мая,
I качаньне маё, —
Маладая дзяўчыначка (2 разы)
I каханьне маё.

5. Цераз сад-вінаград
Па ваду хадзіла, —
Чаму-ж мяне той ня ўзяў (2 разы)
Каго я любіла?

**Заўвага:** Арыгінальная народная мэлёдыя ідзе ў нотным прыкладзе усюды ў верхнім голасе за вынняткам перадапошняга тахту, дзе яна дадзеная ў сярэдзіне.

мірэньне яшчэ на дзесяць дзён, да 4-га ліпеня 1410 году, на працягу якіх можна было-б дамовіцца аб умовах міру. згадзіўся прадоўжыць замірэньне й 30-га чырвеня 1410 году павёў сваю армію ў паход у Чэрвенск, дзе ўжо стаяла армія Вітаўта. 2-га ліпеня польская армія перайшла Віслу па загадзя падрыхтаваным пантонным мосьце. Гэткім чынам канцэнтрацыя абедзьвюх саюзных арміяў была скончаная дакладна паводля пляну, апрацаванага ў Берасьці ў сьнежні 1409-га году.

### Мэта й плян вайны саюзных гаспадарстваў — Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы з Крыжацкім Ордэнам.

Як прыгадвалася ўжо вышэй, мэта й плян вайны супраць Крыжацкага Ордэну быў апрацаваны Вітаўтам і Ягайлам супольна ў сьнежні 1409 году ў Берасьці. Мэтаю вайны было — здабыцьцё крыжацкае сталіцы Мальборку, каб ударам у самае сэрца Крыжацкага Ордэну зьнішчыць Крыжацкую дзяржаву, а ў найлепшым для Крыжакоў выпадку — падыктаваць ім кажныя ўмовы міру, якіх зажадаюць пераможцы. Плян вайны быў апрацаваны саюзьнікамі з усімі падрабязнасьцямі, якія й былі выкананыя зь вялікай дакладнасьцяй. Навет сяньня, сучасныя вайсковыя спэцыялістыя дзівяцца, як у тыя часы, у пачатках 15-га стагодзьдзя, маглі быць так ясна вызначаныя мэта й плян вайны і, ня гледзячы на тагачасныя дарогі й прымітыўныя тэхнічныя сяродкі лучнасьці, гэтак дакладна выкананыя ў часе й месцы.

Што да Крыжацкага Ордэну, дык да нашых часоў дайшло вельмі мала дакумантаў, дзе-б выразна падаваліся мэта й плян вайны Крыжакоў супраць Літвы й Польшчы, з тае, відаць, прычыны, што ў біцьве пад Грунвальдам былі забітыя ня толькі сам крыжацкі містр, але й увесь ягоны штаб. У архівах можна знайсьці сяньня адно ўскосныя зацемкі ў гэтай справе, як, прыкладам, карэспандэнцыю крыжацкага містра з каралямі Чэскім ды Вугорскім і інш. Зь перахаваных лістоў відаць, што, наўсуперак выразна агрэсыўнай мэце Вітаўта й Ягайлы, Крыжацкі Ордэн меў наўвеце абаронную вайну й захаваньне ў Крыжацкім валоданьні тае прасторы, што была іхнаю да вайны. Калі-ж саюзныя арміі былі-б разьбітыя, — Крыжакі маніліся пашырыць згаданую прастору на паўдня і ўсход. Як выглядае, крыжацкі штаб ня ведаў навет, ці арміі Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы будуць ваяваць самастойна, ці задзіночацца ў вадну ўдарную сілу. Таму, калі ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім пачалася мабілізацыя, містр Ульрых фон Юнгенгэн узяўся памацняць замкі на ўсходзе сваіх валаданьняў, пасылаючы туды вялікія гарнізоны. Гэтае самае ён рабіў і на межах з Польшчаю. У выніку — крыжацкая армія расьцярушылася на вялікай прасторы ад Жамойці аж да Памор'я.

Калі крыжацкі штаб даведаўся праз сваіх агентаў аб накіраваньні арміі Вялікага Княства Літоўскага да Віслы, Ульрых фон Юнгенгэн зразумеў, што ўдар ворага будзе зроблены злучанымі арміямі Літвы й Польшчы, і зьмяркаваў, што ўдар гэты будзе зроблены ўздоўж ракі Віслы ў кірунку на Гданск, дзеля таго, што даліна Віслы была заселеная блізу вылучна польскім жыхарствам, якое магло даць саюзным арміям патрэбнае падтрыманьне. Дзеля гэтага, крыжацкі містр пачаў сьцягваць вайсковыя аддзелы з паўдзённа-ўсходніх замкаў і канцэнтраваць сваю армію на ўсходнім беразе Віслы ў раёне Сьвеця. I толькі тады, калі польская армія перапраўілася на ўсходні бераг Віслы й злучылася ў раёне Чэрвенску з арміяй Вялікага Княства Літоўскага, містр Ульрых фон Юнгенгэн упэўніўся, што галоўны ўдар задзіночаных арміяў будзе накіраваны на крыжацкую сталіцу Мальборк. З прыгаданага відаць, што ўся ініцыятыва была ў руках Вітаўта й Ягайлы. Крыжацкі містр адно датарноўваўся да рухаў саюзных арміяў.

### Хто камандаваў задзіночанымі арміямі Вялікага Княства Літоўскага й Польшчы

Да часу апублікаваньня працы аб вялікай вайне з Крыжацкім Ордэнам у 1409—1411 гадох вайскова-гістарычнай Камісіяй Міністэрства Нацыянальнае Абароны ў Варшаве, выданай пад рэдакцыяй Стэфана Кучынскага, блізу ўсе вайсковыя гісторыкі, і польскія й іншыя, уважалі за фактычнага галоўнакамандуючага задзіночанымі арміямі ў біцьве пад Грунвальдам вялікага князя Вітаўта. Асноваю дзеля гэткага цьверджаньня быў летапіс Длугаша, які пісаў у ім, што ў біцьве пад Грунвальдам запраўды кіраваў бітваю Вітаўт. Вышэй прыгаданая камісія, адылі, «дакладна» дасьледвала летапіс Длугаша й іншыя адпаведныя польскія архівальныя дакуманты аб біцьве пад Грунвальдам і прыйшла да высnаву, быццам Длугаш быў дрэнна паінфармаваны аб падзеях і таму няправільна насьветліў ролі Вітаўта й Ягайлы ў Грунвальдзкай біцьве, памяншаючы значаньне апошняга. Камісія падае, што ў часе, калі адбывалася вялікая вайна з Крыжакамі, а гэта ў 1409—1411 гадох, летапісца Длугаша або зусім яшчэ ня было на сьвеце, або ён быў малым дзіцём. У біцьве пад Грунвальдам бралі ўдзел ягоныя бацька й дзядзька, радавыя рыцары, якія маглі добра біцца, але не арыентаваліся ў вагульным пляне змаганьня. Да таго-ж, як цьвердзіць Кучынскі, у тагачаснай Польшчы была моцная група людзёў, няпрыхільных Ягайле й вайне з Крыжакамі наагул. Вось Длугаш і быў адным зь няпрыхільнікаў Ягайлы й таму сьведама паменшыў ягоную ролю ў Грунвальдзкай біцьве. Таксама й бацька ды дзядзька летапісца Длугаша, паводля апавяданьняў якіх ён пісаў свой летапіс, ня былі аб'ектыўныя ў дачыненьні да Ягайлы. Кучынскі піша аб Длугашу навет гэтак: «Длугаш жыў у брыдкім гнязьдзе плёткаў, скваплівa іх хапаў і ў сваіх дзеях увечніў. Ведама, што ня любіў Ягайлы і ўсяго ягонага роду».

З гэткімі цьверджаньнямі Кучынскага можна пагадзіцца толькі часткава. Вельмі магчыма, што Длугаш ня любіў Ягайлы, як, зрэшты, вельмі шмат хто з тагачасных Палякаў, для якіх ён, із сваёю беларускаю моваю й сваім літоўскім патрыятызмам, быў чужы чалавек. Але цяжка з Кучынскім пагадзіцца там, дзе ён закідае Длугашу неаб'ектыўнасьць у вацэне ролі, якую меў Ягайла ў біцьве пад Грунвальдам, бо, як гісторык — навуковец, Длугаш, пішучы летапіс для будучых пакаленьняў, ня мог не здабыцца на аб'ектыўнасьць. Гэтаксама ня пераконвае цьверджаньне Кучынскага, што Длугаш, апісваючы бітву пад Грунвальдам, рабіў гэта адно з апавяданьняў дробных рыцараў — бацькі ці дзядзькі. Длугаш-летапісец, духоўная асоба й навуковец, мусіў мець доступ і да іншых, шмат верыгаднейшых крыніцаў ці асобаў, што былі пад Грунвальдам, і добра арыентаваліся ў тым, хто запраўды кіраваў прабегам Грунвальдзкае бітвы.

Што галоўнакамандуючым задзіночаных арміяў пад Грун-

# Беларуская выстаўка ў Публічнай Бібліятэцы Нью Ёрку

(1. 4. 1960 — 1. 5. 1960)

У найбольшай бібліятэцы васьмёхмільённага Нью-Ёрку (Публічная бібліятэка — рог Пятае эвэню й 42-е вуліцы) 1 красавіка сёлета адкрылася выстаўка **«Беларускія выданьні лацініцай»**. Стэнд выстаўкі знаходзіцца ў калідоры Славянскага аддзелу — месца, найбольш нанаведванае славянаведамі Нью-Ёрку. Беларуская выстаўка сваім пачаткам захапіла якраз «Нацыянальны Тыдзень Бібліятэкі» й вялікодныя канікулы, калі бібліятэкі прыцягваюць да сябе больш наведвальнікаў, чымся звычайна.

Кажны экспанат Выстаўкі суправаджаецца адпаведнай паясьняльнай заценкай. Апрача гэтага, пададзеная агульная інфармацыя пра беларускія выданьні лацініцай (даем ніжэй у поўным перакладзе).

«Францішак Скарына надрукаваў першую беларускую кніжку ў 1517 годзе кірыліцай. Беларускія выданьні лацінскімі літарамі зьявіліся значна пазьней. Паводля Карскага, лацініца ў беларускім друку зьявілася ў XVII ст. і значна пашырылася. Спачатку лацініцай абмяжоўваліся да рэлігійных выданьняў, але пасьля яна была ўведзеная таксама ў прыгожым пісьменстве ды ў кнігах права.

Лацініца стала пераважаць у беларускай літаратуры XIX-га ст., і гэткія пісьменьнікі, як Ян Чачот, Ян Баршчоўскі, Францішак Багушэвіч, Янка Лучына, Дунін-Марцінкевіч, Цётка, Альгерд Абуховіч, Фэлікс Тапчэўскі карысталіся выключна лацініцай.

У XX ст. абодва альфабэты, лацінічны й кірылічны, ужываліся Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам, А. Гаруном, З. Бядулем, Цішкам Гартным, К. Буйлай ды іншымі.

Беларускі друк быў забаронены расейскім царскім урадам у 1859 годзе. Аднак, беларускія выданьні лацініцай выходзілі й надалей. Іх друкавалі на Беларусі («Мужыцкая Праўда») або паза межамі Расейскае імпэрыі: у Пазнані, Кракаве, Лёндане.

У 1905 забарона беларускага друку была скасаваная, і шмат беларускіх выданьняў публікаваліся лацінскімі літарамі: «Беларускае Жыцьцё», «Крыніца», «Беларусь», «Гоман».

«Наша Ніва», ідучы сьледам «Нашае Долі», сталася галоўным цэнтрам беларускага культурнага й літаратурнага жыцьця. Яна мела два выданьні: адно лацініцай, другое кірыліцай. Беларуская літаратура лацініцай вельмі багатая.

У часе Лінгвістычнае Канфэрэнцыі, што адбылася ў Менску ў 1926 г., падавалася навет прапанова скасаваць кірылічны альфабэт на Беларусі ды перайсьці на лацініцу.

Цяперашнім часам савецкі ўрад дазваляе друкаваць толькі кірыліцай. Аднак, лацініца шырака ўжываецца за мяжой. Шмат беларускіх часапісаў як «Крывіцкі Сьветач» і «Адраджэньне» (выдаваліся ў Заходняй Нямеччыне), «Сяўбіт» (ЗША), «На Шляху» (Ангельшчына), «Зьніч» (Італія) ды іншыя выдаюцца выключна лацініцай».

З пэрыядычных выданьняў на стэндзе знаходзім гэткія экспанаты:

**«Мужыцкая Праўда»** (беларускае падпольле, 1863; паказаная ў кнізе С. Гурскага «Революционное движение в Белоруссии», Менск, 1928);

**«Маладая Беларусь»** (Пецярбург, 1913);
**«Крыніца»** (Вільня, 1920);
**«Шлях Моладзі»** (Вільня, 1937);
**«На Шляху»,** (Лёндан, 1950);
**«Зьніч»** (Рым, 1951);
**«Сяўбіт»** (Нью-Ёрк, 1958).

На выстаўцы паказаная таксама карэктарская адбітка вершу Канстанцыі Буйлы «Дзень сканаў за гарой...», папраўленая рукой Купалы ў 1913 г. з Купалавым аўтаграфам. Па сярэдзіне стэнду ляжыць табліца з двума беларускімі альфабэтамі й ангельскай трансьліталацыяй.

Апрача пэрыядычных выданьняў, тут раскладзеныя таксама й беларускія кніжкі лацініцай:

Францішак Багушэвіч. **Смык Беларускі.** Пазнань, 1894;

Францішак Багушэвіч. **Дудка Беларуская і Смык Беларускі.** Вільня, 1930. (Выданьне Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры);

Ал. Стэповіч. **За Бацькаўшчыну** (Песьні працы й змаганьня). Вільня 1935 (Выданьне Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры);

Я. Станкевіч. **Мова рукапісу Аль Кітаб.** Нью-Ёрк, 1954;

**Беларускі Каляндар «Нашае Нівы»** на 1912 год. Вільня, 1912;

**Апавяданьні і легенды вершам розных аўтараў.** Вільня, 1914;

**Сьвятая Эванэлія і Апостальскія Дзеі** (Пераклад а. д-ра П. Татарыновіча). Рым, 1954;

**Дзядзька Антон або гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць — ня ведаем.** Вільня, 1892;

Я. Колас. **Батрак. Як Юрка збагацеў.** Пецярбург, 1913;

**Першыя малітвы і пазнаньне хрысьціянскай праваслаўнай веры.** Вільня, 1918 (Выдавецтва В. Ластоўскага);

Цётка. **Скрыпка Беларуская.** Вільня 1918 (Выдавецтва В. Ластоўскага).

Славянскі аддзел Публічнае бібліятэкі Нью-Ёрку — адна з найбагацейшых у вольным сьвеце скарбніцаў беларускіх кніжак, часапісаў і газэтаў самых розных часоў. Выстаўка беларускіх выданьняў лацініцай магла-б быць значна дапоўненая, калі-б на гэта дазвалялі памеры стэнду. Славянскі аддзел мае, прыкладам, гэткія выданьні лацініцай, як:

«Беларуская Крыніца» (газэта), Вільня, 1920-я й 30-я гады; «Шлях Беларускага Студэнта» (часапіс), Вільня, 1930-я гады; «Хрысьціянская Думка» (часапіс), Вільня, 1920-я й 30-я гады; «Ружа» (падручнік Ружанцовага Аб'яднаньня для Беларусаў), Рым, 1949; А. Навіна, «Нашы Песьняры» (літаратурна-сацыяльныя нарысы), Вільня, 1918; Кс. В. Гадлеўскі, «Гісторыя Сьвятая або Біблійная Новага Закону», Вільня, 1932 (выд. «Беларускага Каталіцкага Выдавецтва»); «Беларускі Каляндар на 1947 год»; кс. др. Я. Тарасэвіч, «Беларусы ў сьвятле праўды» (Бібліятэка «Хрысьціянскай Думкі» № 25), Вільня, 1935; «Пралескі» (часапіс для беларускіх дзетак), Вільня, 1930-я гады, «Беларускае Жыцьцё» (часапіс), Вільня, 1919-20; ды шмат іншых.

Публічная бібліятэка Нью-Ёрку стала ўзбагачае калекцыю беларускіх выданьняў. Толькі за апошнія гады былі набытыя камплеты газэтаў «Гоман», «Наша Ніва», «Наша Доля» або гэткія кніжкі, як «Песьні працы й змаганьня» Цішкі Гартнага (Бэрлін, 1922), «Беларусь» А. Цьвікевіча (Бэрлін, 1925) ды іншыя. Бібліятэка мае таксама даволі багаты збор савецкіх выданьняў — сьвежых, а таксама з 20-х гадоў, бальшыня якіх у падсавецкай Беларусі ляжыць пад суровай забаронай.

«Беларускія выданьні лацініцай» — гэта ўжо другая беларуская выстаўка ў Публічнай бібліятэцы Нью-Ёрку. У 1957, пры супрацоўніцтве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, тут была наладжаная вельмі прыгожая выстаўка «Вехі беларускае літаратуры», прысьвечаная 75-годзьдзю народзінаў Купалы й 50-годзьдзю «Нашае Нівы» (гл. «Б-на», 25. VIII. 1957).

Трэба адзначыць аб'ектыўнае й сумленнае стаўленьне кіраўніцтва Славянскага аддзелу Публічнае бібліятэкі да справы папулярызацыі беларусікі й пашырэньня ведаў пра нашую бацькаўшчыну. У наладжаньні выстаўкі «Беларускія выданьні лацініцай» узялі дзейны ўдзел др. Рычард Леванскі, загадчык Славянскага аддзелу, др. Вітаўт Кіпель, працаўнік Славянскага аддзелу, і сп-ня Р. Яхніна, працаўніца гэтага аддзелу.

Беларусіка ў Славянскім аддзеле Публічнае бібліятэкі Нью-Ёрку багатая. Магла-б яна быць, аднак, куды багацейшай, калі-б нашыя выдавецтвы, адміністратары й кальпартэры крыху больш рупіліся аб распаўсюджваньні сваіх выданьняў. Дзесяткі асобаў штодня наведваюць Славянскі аддзел, і ці адзін зь іх пераглядае каталёгі беларускіх выданьняў. У гэтых каталёгах ёсьць шмат што. Але нельга сказаць, што ў іх ёсьць усё, што павінна было-б быць — хоць-бы толькі з нашых эміграцыйных выданьняў. Выдавецкі энтузіязм бадай усіх нашых самаахвярных выдаўцоў канчаецца, звычайна, разам з выхадам у сьвет часапісу ці кніжкі. Тое, што павінна быць зробленае пасьля гэтага ім здаецца шэрай, нуднай, дый не такой ужо важнай справай. Тымчасам супакойвацца трэба толькі тады ,калі выдадзеныя часапіс ці кніга параскладаныя па паліцах усіх магчымых бібліятэк, — адзінае месца дзе ім забясьпечваецца шырокая дарога ў сьвет.

**Я. Запруднік**

# Сьветавы Эўхарыстычны Кангрэс у Мюнхэне

Як ведама, у часе ад 31 ліпеня да 8 жніўня сёлета ў Мюнхэне адбудзецца Сьветавы Эўхарыстычны Кангрэс, на які, як прадбачваецца, мае зьехацца звыш аднаго мільёну ўдзельнікаў із цэлага сьвету. На Кангрэсе асобнай зарганізаванай групай будуць удзельнічаць і Беларусы.

Ніжэй падаём праграму беларускага ўдзелу ў Кангрэсе:

**1. Пятніца 5-га жніўня гадз. 18,20:** інфармацыйная агульная зборка на Швабінгу.

**2. Сыбота 6-га жніўня гадз. 9.30:** на Швабінгу лацінская Літургія за беларускі народ, якую адправіць Я. Э. біскуп Б. Слосканс з прынагодным казаньнем і сьпевамі. ПасьляЛітургіі зборка ў залі з эвэнтуальным дакладам. Таго-ж дня а гадз. 19-ай — удзел Беларускай Групы ў Вялікай Багаслужбе Ўсходняга Абраду на пляцы Тэрэзіенвізэ.

**3. Нядзеля 7-га жніўня а гадз. 6,30:** Беларуская Ўсходняя Служба. Таго-ж дня а гадз. 9 — супольны ўдзел ў вагульнакангрэсавай Літургіі, цэлебраванай Папскім Легатам кардыналам Тэста пры Цэнтральным Аўтары на Фэстпляц з радыяпрамовай Сьвятога Айца й Канчатковай Урачыстай Працэсіяй із стэндартамі ўсіх нацыяў. Таго-ж дня а гадз. 18-ай — агульная сходка Беларускай Групы з адпаведнай праграмай.

**4. Панядзелак 8-га жніўня гадз. 9:** Усходняя Беларуская Літургія, пасьля якое сход сьвятароў. Таго-ж дня а гадз. 18-ай — канчатковая зборка на Швабінгу з адпаведнай праграмай.

Для Веларускае Групы прызначаны на Швабінгу ў Мюнхэне адумысловы касьцёл «Марыя фом гутэн Ратэ» (Марыі Добрае Рады), да якога едзіцца з Гаўптбангофу трамваем № 3 ў кірунку Швабінгу аж да 10-га прыстанку.

Па ўсе патрэбныя інфармацыі можна зьвяртацца да: Weissruthenisches Kongress-sekretariat (Piotr Sycz), München 23, Parzivalstr. 1, Tel. 33 83 93 або 62 941.

# Каля ракі Міссісіпі

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі ёсьць вельмі многа прыгожых мясьцінаў. Да аднае з такіх прыгожасьцяў належыць мясьціна, дзе на ўзгорках пры беразе Міссісіпі стаіць места Молін, якое чамусьці падзелена на дзьве часткі: Молін і Іст Молін. У гэтай другой частцы на даволі высокіх узгорках пабудаваны шпіталь. Будынкі шпітальныя, а іх некалькі дзесяткаў, у стылі сярэднявечных замкаў вельмі прыгожа выглядаюць, а дзеля таго, што іх так шмат, дзе знаходзіцца каля дзьвёх тысяч пацыёнтаў ды некалькі соцень усялякіх працаўнікоў, дык цэлы камплекс мае выгляд асобнага места.

Вось-жа ў гэтым шпіталі доктарам мэдыцыны працуе Пётра Гайдаль — беларускі сялянскі сын, гадунец біскупаў Ф. Абрантовіча й А. Цікоты з Друйскае гімназіі. Доктар Гайдаль і ягоная жонка — сьведамыя Беларусы, адданыя нашай нацыянальнай справе й вельмі ахвярныя. Маюць яны двое дзетак: Ванда 10 гадкоў і Яцак — 8.

2 чэрвеня сёлета дзеці доктара Гайдаля неспадзявана зрабілі тое, што ўсе блізу жыхары места Моліна сталі гаварыць пра Беларусь і Беларусаў. Гэта пачалося так: у гэты дзень 2 чэрвеня адбылося ўрачыстае заканчэньне школьнага году ў мадэрнай школе «Гілерэст Скул». У гэтай урачыстасьці між іншымі бралі ўдзел Ванда й Яцак Гайдалі. Яны зьявіліся на ўрачыстасьць у нацыянальна-беларускай вопратцы з баянамі, на якіх адыйгралі дуэт «Зязюленька» і танец «Лявоніха». Молінскіх Амэрыканцаў, першы раз у жыцьці ўбачыўшых прыгожую беларускую вопратку й пачуўшых беларускую мэлёдыю, выступ Ванды і Яцка проста ашаломіў. Не зважаючы на тое, што перад самым выступам Ванда праз радыё паінфармавала коратка аб Беларусі й Беларусах і аб тым, што нацыянальную вопратку іхняя мама сама пашыла й вышыла тут у Моліне, пасьля выступу прысутныя проста замучылі іх рознымі пытаньнямі, а настаўніца школы сп-ня Кады, відаць на жаданьне грамадзкасьці, зьвярнулася да самога доктара Гайдаля пра шырэйшыя й дакладнейшыя інфармацыі аб нашай бацькаўшчыне й народзе.

Гэта ёсьць добры прыклад і доказ таго, што ўсялякім спосабам і ўсюды неабходна й можна інфармаваць іншыя народы аб Беларусі й Беларусах

**І. А.**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

# Зь беларускага жыцьця

## Епархіяльны Зьезд БАПЦарквы

У днёх 28 й 29-га травеня сёлета ў Катэдральным Саборы ў Нью-Ёрку адбыўся Епархіяльны Зьезд Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ЗША й Канады. На Зьезд прыбылі настаяцелі парахвіяў, сябры Царкоўных Радаў і па два дэлегаты ад вернікаў кажнае парахвіі. У Зьезьдзе ўзялі ўдзел парахвіі: Нью-Ёрку, з настаяцелем Мітраф. Пратаіерэем а. Хведарам Данілюком, Нью Брансьвіку й Саў Рывэру, з настаяцелем Мітраф. Пратаіерэем а. Сьцяпанам Войтанкам, Кліўленду (настаяцель, які часова выконвае гэтыя свае абавязкі, адсутнічаў) і Торонта (Канада), з настаяцелем, Пратаіерэем а. Міхаілам Мацукевічам.

Зьезд пачаўся малебнам і закончыў сваю працу ў першы дзень (сыбота, 28-га травеня) урачыстаю Ўсяночнаю. У нядзелю пасьля ўрачыстае Архірэйскае Службы Божае быў адслужаны малебен удзячнасьці Богу. Праводзіў Зьезд Яго ВПрэасьвяшчэнства Архіяпіскап Васіль. У прэзыдыюм былі пакліканыя настаяцелі парахвіяў і старшыні Царкоўных Радаў. Пасьля прачытаньня багаславенства й прывітаньня Галавы БАПЦарквы Яго ВПрэасьвяшчэнства Архіяпіскапа Сяргея, былі зложаныя прывітаньні ад беларускіх нацыянальна-грамадзкіх установаў і арганізацыяў. Зьезд выслухаў даклад правячага Архіяпіскапа Васіля, і кароткія словы настаяцеляў і старшыняў інфармацыйнага зьместу.

Галоўнаю мэтаю Зьезду было зарганізаваньне Епархіі на Амэрыку й Канаду, і выбары Епархіяльнае Ўправы й яе ворганаў, што дасьць магчымасьць зарэгістраваць БАПЦаркву праз адпаведныя амэрыканскія ўлады, як самастойную адзінку сярод іншых праваслаўных цэркваў.

Другім важным пытаньнем была праблема ўзгадаваньня духоўных кадраў. Паміма пякучай патрэбы й стараньняў, справа гэтая напатыкаецца на цяжкасьці. А цяжкасьці гэтыя найперш матар'яльнага парадку. Усе нашыя парахвіі знаходзяцца цяпер у стане разбудовы, і дзеля гэтага ня могуць выдзеліць адпаведных сяродкаў на гэтыя мэты. Ня менш паважная перашкода й у тым, што нашая моладзь не асабліва схіляецца да студыяў тэалёгіі. Аднак, Зьезд, уважаючы на неабходнасьць узгадоўваньня й павялічаваньня духоўных кадраў БАПЦарквы, прыняў пастанову аб арганізацыі духоўнае вучэльні, а таксама пастанавіў прыступіць да адкрыцьця пастырска-рэгенцкіх курсаў у Кліўлендзе.

Ня так проста прадстаўляецца й справа беларусызацыі Царквы, аб якой часам так лёгка выказваюцца людзі, якія або ня прымаюць беспасярэдняга ўдзелу ў адбудове БАПЦарквы, або стаяць вонках нашага царкоўнага жыцьця. Справу гэтую Яго ВПрэасьвяшчэнства Архіяпіскап Васіль у сваім дакладзе, які меў у пачатку працы Зьезду, насьветліў у гэткі спосаб:

«Усе мы добра разумеем, што нашая сьв. БАПЦарква ў сваім жыцьці й Багаслужбах павінна ўва ўсёй паўніні карыстацца сваёю роднаю беларускаю моваю. Так, мы гэта разумеем і ўсе гэтага жадаем. Нажаль, ня ўсе людзі належна ўсьведамляюць, як правесьці гэтае нашае жаданьне ў жыцьцё.

Мы мусім ведаць, што словы ўсіх напеваў у Службах Божых узятыя з сьв. Пісаньня — Бібліі. Вось жа, заданьнем нашым павінна быць: усімі сіламі пастарацца прыступіць да перакладу Бібліі на беларускую мову, бо толькі тады мы зможам прыступіць да поўнае беларусызацыі Багаслужбаў.

Бязумоўна, ужо цяпер мы часткаа рэалізуем беларусызацыю: царкоўнае адміністраваньне, казаньні ў цэрквах, выкладаньне рэлігіі й Закону Божага ў нашых школках, — усё гэта вядзецца ў роднай мове. Часта, а ў некаторых цэрквах стала чытаюцца сьв. Евангельле й Апостал пабеларуску.

Мы ўжо маем Катэхізіс у беларускай мове, неўзабаве будуць выданыя пабеларуску Стары й Новы Запавет. Шмат гаворыцца й навет у прэсе пішацца аб беларускіх напевах у нашай Царкве. Толькі, нажаль, мы іх ня маем. Калі такія знойдуцца й будуць адпавядаць духу нашае Царквы, мы іх, бязумоўна, возьмем да карыстаньня».

Зьезд пагадзіўся з гэтым сьцьверджаньнем Уладыкі Васіля. У далейшай працы Зьезд прадыскутаваў праект Статуту Епархіі й прыняў яго, а пасьля прыступіў да выбараў Епархіяльнае Управы.

У Епархіяльную Управу ўвайшлі: Яго ВПрэасьвяшчэнства Архіяпіскап Васіль, як апякун. Мітраф. Пратаіерэй а. Сьцяпан Войтэнка, як кіраўнік Царкоўна-Адміністрацыйнага аддзелу. Мітраф. Пратаіерэй а. Хведар Данілюк, як кіраўнік Царкоўна-Судовага аддзелу. Пратаіерэй а. Міхаіл Мацукевыч, як кіраўнік Місыйна-Асьветнага аддзелу. Сп. д-р В. Войтэнка, як кіраўнік Гаспадарска-Фінансавага аддзелу, і Сп. Янка Ніхаёнак, як сакратар. На дапамогу кажнаму кіраўніку аддзелу Зьезд выбраў па двох міран. Былі выбраныя таксама два трасьцісты й Рэвізійная Камісія.

Зьезд дакладна прадыскутаваў гаспадарска-фінансавую справу Епархіі, і прыняў такую пастанову: кажная парахвія ўносіць у касу гэтага аддзелу па даляру ў год ад кажнага свайго прыхажаніна, незалежна ад веку.

Зьезд закончыўся супольною малітваю й багаславенствам Уладыкі Васіля.

**М-ч**

# Высокі госьць у Чыкаго

2 чэрвеня сёлета летаком завітаў у Чыкаго міла вітаны дастойны Прэзыдэнт Рады БНР інж. Мікола Абрамчык.

Мэта прыезду, як паважаны госьць сам сказаў — адведаць суродзічаў і паінфармаваць аб працы Рады й Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі на эміграцыі ды аб працы й дасягненьнях Парыскага Блёку.

3 чэрвеня сп. Прэзыдэнт меў нарады з нашым тут актывам, а 4 чэрвеня быў наладжаны банкет мясцовымі Беларусамі ў гонар дастойнага госьця.

Банкет адбыўся ў абшырнай залі нашага Культурна-Рэлігійнага Цэнтру. Ад стала, за якім занялі месца сп. сп. Прэзыдэнт М. Абрамчык, старшыня нашага згуртаваньня А. Беленіс, а. У. Тарасэвіч, старшыня Царкоўнага камітэту д-р А. Занковіч, праф. М. Куліковіч і заступнік старшыні нашага Згуртаваньня Мароз, былі ўстаўлены сталы ў два рады ўва ўсю даўжыню залі. Сабралася столькі людзей, што ледзь-ледзь маглі зьмясьціцца. (На наступны дзень у нядзелю выясьнілася, што шматлікія ня ведалі аб прыезьдзе Прэзыдэнта й вельмі шкадавалі, што не маглі быць таксама прысутнымі).

Калі ўсе занялі месцы за сталамі, наш старшыня сп. А. Беленіс, вітаючы сп. Прэзыдэнта, выказаў падзяку яму ад імя сяброў Згуртаваньня і ўсіх Беларусаў Чыкаго за ягоныя адведзіны нас, што было ўсімі прысутнымі пацьверджана гучнымі воплескамі, і папрасіў дастойнага гасьця забраць голас.

Спадар Прэзыдэнт у больш як гадзіннай прамове паінфармаваў слухачоў аб працы й дасягненьнях Рады й Ураду БНР, аб дзейнасьці Парыскага Блёку й мэтах свайго прыезду ў Задзіночаныя Штаты Амэрыкі. Выслухаўшы прамову, усе на залі прасьпявалі зычаньне Прэзыдэнту «Сто год!» З запытаньнямі або прамовамі выступалі д-р Рамук, д-р Гайдаль, д-р Грабінскі й мгр. Пануцэвіч. Калі адзін з нашых старэйшых сяброў Згуртаваньня падчыркнуў нябывалую вытрываласьць і ахвярнасьць для беларускае справы сп. Прэзыдэнта, дык уся заля запоўнілася гучнымі воплескамі. Ушанавалі Прэзыдэнта й нашыя наймалодшыя: Ірэнка Мароз — 5-гадовая дзяўчынка — прыгожа й адважна дэклямавала вершы, а Ванда й Яцак Гайдалі адыгралі на баянах некалькі прыгожых беларускіх мэлёдыяў.

Бяседа зацягнулася да познае ночы, бо й сталы былі багата застаўлены, дзякуючы старшыні сп. Беленісу й нашым жанчынам, а асабліва сп-ні Тарэсе Тарасэвічанцы.

У нядзелю 4 чэрвеня ў нашай царкве была адслужана Багаслужба. У першых радох прысутных на Багаслужбе быў сп. Прэзыдэнт, д-р Гайдаль з сынам і мгр. Пануцэвіч, з правага боку — праф. Куліковіч з хорам. Айцы Янка й Уладзімер Тарасэвічы правяць Сьвятую Літургію. У сувязі з тым, што сп. Прэзыдэнт ня можа быць да канца сьв. Літургіі, бо мае адляцець летаком у Кліўленд, а. Янка гаворыць казаньне не ў канцы сьв. Літургіі, як заўсёды, але ў палове яе.

У памяці нашых мясцовых Беларусаў на доўга застануцца гэтыя прыемныя хвіліны праведзеныя супольна з нашым дастойным госьцем — сп. Прэзыдэнтам Рады БНР — інж. Міколам Абрамчыкам.

**Сябра Згуртаваньня**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ